# ВЫНІКІ ГОДА

Старонкі 3—7.

№ 48 (837) 25 снежня 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў ма[illegible] 1991[illegible]. Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



# БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ ДЗЕЦІ

Асобы года па версіі «НН». Старонкі 3—4.

# Канечне падпішыцеся на паўгоддзе!

Свежая газета на стале – гэта добрая традыцыя. А «Наша Ніва» – гэта яшчэ і глыток беларускасці, выдатнае чытво. Аб'ектыўная, незалежная, «Наша Ніва» дае ўсякую карысную інфармацыю. Тут вы знойдзеце тое, чаго ў дзяржаўных газетах не скажуць. А інфармаваны – значыць абаронены.

З новага года цана падпіскі вырасла. Але газета павінна каштаваць, як бохан хлеба. Падрыхтаваць газету, надрукаваць яе – гэткая ж няпростая справа, як праца хлебароба. Падаражэла газета, бо падаражэла ўсё вакол: паслугі друкарні і пошты, бензін і электрычнасць.

Падпішыце сябе і падарыце падпіску сваякам, сябрам. Гэта грошы на святую справу — беларускую справу.

**Падпіска праз «Белпошту»**

Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні да 28 снежня:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 35800 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 42979 руб./месяц.

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 24000 рублёў. Па пытаннях распаўсюду звяртайцеся: (017) 284-73-29, (029) 804-12-31, (029) 356-98-29, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828 Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11,

Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

Частае пытанне: як запаўняць графу «рахунак на аплату»

Пры аплаце ў банку ці на пошце, бывае, узнікаюць пытанні пра новую графу «рахунак на аплату», «счет на оплату». Кажыце, каб яе проста прапускалі. Гэты нумар ствараецца толькі пры аплаце праз сістэму ЕРІП (інтэрнэтныя плацежныя сістэмы, пры аплаце праз інтэрнэт-банкінг). Пры аплаце з пошты, банка, як звычайна, ён не патрэбны. Кажыце, што вы плаціце за газету накладзеным плацяжом, а не праз ЕРІП.

# Перанесці цяжкасці жыццёвыя і не заламацца

**Айцец Аляксандр Надсан**, апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў замежжа, зычыць усім нам духоўнай сілы.



«Як гляну на неба, твор рук Тваіх, на месяц і зоркі, якія Ты стварыў, дык хто ёсць чалавек, што Ты памятаеш пра яго, і сын чалавечы, што Ты пра яго дбаеш?» (Пс 8:4-5).

Гэтыя словы псалма добра перадаюць пачуцці чалавека, які, узіраючыся на веліч Божага тварэння, стараецца зразумець, чаму Бог прыдае так шмат увагі такой нязначнай істоце, як чалавек.

Падсвядома аўтар адчувае, што ў плане Божага тварэння чалавек займае асаблівае, хоць яшчэ не зусім для яго зразумелае, месца.

Гэты план Божы знайшоў сваё завяршэнне ў падзеі, памяць якой мы святкуем і пра якую святы Павал сказаў: «Калі прыйшла поўня часу, Бог паслаў Сына Свайго, народжанага ад Дзевы, народжанага пад законам, каб мы маглі атрымаць усынаўленне...» (Гал 4:4-5).

Іншымі словамі, Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос стаў чалавекам, адным з нас, каб даць нам магчымасць стаць дзецьмі Божымі, удзельнікамі Боскага жыцця.

Нам давялося бачыць і дасведчыць розных людскіх спробаў зрабіць нас «шчаслівымі», не пытаючыся нашай згоды. Нашыя «дабрачынцы» думаюць, што ведаюць лепш за нас, што нам трэба для шчасця. І калі мы з імі не згаджаемся, яны не супраць ужыць сілу, каб нас, неразумных, ашчаслівіць. Вынікі іх «дабрачыннай» дзейнасці нам добра вядомыя.

Не так Бог. Таму Ён з уласнай волі прыйшоў на свет, як малое бездапаможнае дзіцятка, якое не толькі не пагражала нікому, але мела патрэбу ў нашай дапамозе і спагадзе. Пасля, у дарослым веку, Ён адмовіцца ад ужывання сілы і не будзе абяцаць «неадкладнага шчасця», але скажа: «Прыйдзіце да Мяне, усе струджаныя і абцяжараныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо я ціхі і пакорнага сэрца, і знойдзеце супакой для душаў вашых. Бо ярмо маё прыемнае, і цяжар мой лёгкі» (Мц 11:28-30). Іншымі словамі, Ён абяцаў тым, што пайшлі за Ім, не вызваленьне ад цяжкасцяў, але даць сілу пераносіць іх.

Вось гэтай сілы духоўнай, каб перанесці цяжкасці жыццёвыя і не заламацца, хай Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос, чыё Нараджэнне ў целе сёння радасна святкуем, дасць нам усім.

**а. Аляксандар Надсан**
**Каляды 2013, Лондан**

Андрэй Хадановіч

## Каляды-транзіт



*о скільки, конику-братику, крутих чудасій на світі*
***Ю. Андруховіч***

Колькі дзівосаў, колькі цудаў наўкола!
Трэба верыць у свята і пашанцуе.
Зранку званок дамафона. Хто там?
Святы Мікола,
я да суседзяў, у іх дамафон не працуе.

Цісну на кнопку. Ціха. А потым грукат у дзверы,
бо званок зламаўся не помню калі.
Можна пагрэцца? Суседзяў няма ў кватэры,
а мяне ля пад'езда баршчом аблілі.

Толькі таго… я з аленямі. Пусціш?
— Пушчу.
Во будзе радасць малой — авечкі, кароўкі…
Адчыняю. Тры дзядзькі. Адзін з каструляй баршчу,
а ў руках у «аленяў» дзве паўлітроўкі.

Покуль Мікола палову каструлі выеў,
я ім казаў пра наша жыццё фіговае.
— Мы тут праездам, хлопча, з падарункамі ў Кіеў,
ён іх болей чакае і заслугоўвае.

Скончылі пляшкі. Пайшлі па горадзе пешкі.
— Дзякуй за пачастунак. Нясмачны боршч.
Добра, хочаш прэзентаў — чытай мне вершык,
толькі кажу адразу, пасля не збоч!

Слухаць паэзію госць пажадаў на пленэры.
Разам прыйшлі на ганачак, пад музей.
Я — пра калядную зорку, а ён — аб зорцы Венеры.
Пара сяброў і больш — у цывільным — *друзей*.

Апладысменты. Уцёкі. Цягнік. Пацалункі.
Пафасны верш пакрысе пераходзіць на шэпт…
Зранку вярнуўся дамоў, а там падарункі.
Факсімільны «Вянок». І баршчу ўкраінскі рэцэпт.

## Сцісла

**І ўсё-ткі расстрэл**

Да расстрэлу асуджаны забойца студэнткі Наталлі Емяльянчыкавай, 25- гадовы Аляксандр Груноў. Справа была адпраўленая на паўторны разгляд, аднак суд зноў вынес смяротны прысуд.

**400 тысяч мігрантаў у Расіі**

Федэральная міграцыйная служба Расіі падлічыла колькасць мігрантаў у краіне. Сярод іх 385 тысяч беларусаў. Найбольшая колькасць прыезжых з Узбекістана (2,6 мільёна чалавек), Украіны (1,6 мільёна), Таджыкістана (1,6 мільёна).

**У Літве Год бітвы пад Оршай**

Парламент Літвы абвясціў 2014-ы Годам Аршанскай бітвы ў гонар перамогі ў бітве XVI ст. над Маскоўскім княствам. Сёлета ў Літве святкаваўся Год паўстання 1863 года. У Беларусі на афіцыйным узроўні такія святы ігнаруюцца.

**Януковіч амніставаў усіх пратэстоўцаў Майдану**

Закон вызваляе ад адказнасці ўдзельнікаў акцый пратэсту з 21 лістапада да дня ўступлення закона ў сілу. Крымінальныя дзеянні супраць іх падлягаюць закрыццю.

**ЯМ**

## Рэкамендуем

**«Напились, устроили пляску со стрельбой»**

Пра стваральнікаў мінскай ЧК піша Ніна Стужынская.

## Апытанне на nn.by

**За каго б вы сёння прагаласавалі на выбарах-2010?**

| | | |
|---|---|---|
| Мікола Статкевіч | 1380 | 31% |
| Андрэй Саннікаў | 622 | 14% |
| Уладзімір Някляеў | 495 | 11% |
| Аляксандр Лукашэнка | 163 | 4% |
| Віталь Рымашэўскі | 122 | 3% |
| Яраслаў Раманчук | 119 | 3% |
| Рыгор Кастусёў | 110 | 2% |
| Алесь Міхалевіч | 83 | 2% |
| Дзмітрый Ус | 57 | 1% |
| Віктар Цярэшчанка | 13 | 0% |
| Супраць усіх | 411 | 9% |
| Не пайшоў бы галасаваць | 836 | 20% |

Прагаласавала **3575**.

## Прыватныя абвесткі

**ВІНШАВАННІ**

**Віншуем Наталлю і Віктара Янчурэвічаў** з нараджэннем сына Уладзіслава! Сям'я Гарэцкіх

**Віншуем Дарку Слабчанку і Змітра Жалезнічэнку** з узяццем шлюбу. Сябры

**СПАЧУВАННІ**

**Выказваю шчырыя спачуванні** сям'і нябожчыцы Алы Міхайлаўны Ходан. Аляксей

**Шаноўная Мілана Міхалевіч!** Прыміце шчырыя спачуванні з прычыны смерці бабулі Алены. Сябры

**Выказваю шчырыя спачуванні Мілане і Лесі Міхалевіч** у сувязі са смерцю бабулі і прабабулі, адпаведна. Радаслаў Грыгаровіч.

**ЗНАЁМСТВА**

**Спадар (36 год) пазнаёміцца** з беларускамоўнай спадарыняй з Менска для шчырых адносін. Андрэй, (029) 871-16-73

# Сяргеей Дарафееў: **Падыміцеся над крыўдай!**



Дарагія чытачы газеты «Наша Ніва»! Віншую вас з Калядамі і Новым годам! Усім нам я жадаю навучыцца любіць і паважаць адзін аднаго. Шчыра, па-сапраўднаму...

Жадаю набрацца смеласці, каб задаваць сабе самыя нязручныя пытанні — як я раблю, што думаю і кажу.

Толькі навучыўшыся любіць, мы будзем здаровымі і шчаслівымі, чаго так часта жадаем адно аднаму на свята.

Як складана даравацъ крыўдзіцелям, ведаю па сабе... Але, як толькі ўдаецца падняцца над крыўдай, прыходзяць і сілы, і новыя магчымасці.

Любові нам усім, а яшчэ здольнасці прымаць усё з падзякай!

**Сяргей Дарафееў,**
**тэлевядучы, Кіеў**

## Самае чытанае на nn.by з 18 да 24 снежня

1 Акцыя пратэсту «Стоп-падатак» у цэнтры Мінска была гучнай
2 Майдан дайшоў да сына Януковіча
3 Жыхары Шабаноў патрабуюць замяніць навагоднюю ёлку
4 У якіх краінах плацяць падатак на аўто?
5 У Мінску адкрыўся першы гіпермаркет «Грын»
6 Onliner.by, Belta.by і Charter97.org: па-рознаму пра тую самую акцыю «Стоп-падатак»
7 Лукашэнка: Беларусь гатова на любыя крокі для нармалізацыі адносінаў з ЕС
8 Курсы «Мова ці кава» зменяць назву
9 Ермакова: Новыя грашовыя знакі ўжо ёсць, яны надрукаваныя
10 Мінскі студэнт застрэліўся ў ціры

# Асобы года — беларускамоўныя дзеці

2013-ы ў Беларусі не быў багатым на яркія падзеі і ўчынкі.

Мы доўга думалі, каго ж назваць чалавекам года, абмяркоўвалі некалькі дзён, дыскутавалі, вылучалі ўсё новых кандыдатаў. У адзін з момантаў прагучаў варыянт — ніхто.

Сапраўды, чалавекам года мог бы стаць палітык, які б атрымаў шырокую падтрымку ў грамадстве, мог стаць чыноўнік, які б меў смеласць выказацца аб сітуацыі ў краіне і грамадстве, мог стаць літаратар, які б напісаў папулярны раман, мог бы стаць нават Аляксандр Лукашэнка, калі б адважыўся сысці ў адстаўку, даць дарогу маладым! Чалавекам годам мог бы стаць...

Але не сталі. Разам з тым, наміnаваць «нікога» — гэта ўсё ж няправільна, песімістычна, жыццё не замерла, нешта навокал увесь час адбываецца. Хай і не ў нацыянальных, а больш лакальных межах. У кнігарні «Ў» ці не кожны дзень праходзяць нейкія імпрэзы, ладзяцца канцэрты, выходзяць кнігі, фанаты малююць белмоўныя банеры, нават палітычныя акцыі (хай і млявыя), але адбываюцца. А самае галоўнае — людзі знаёмяцца, кахаюць адзін аднаго, нараджаюць дзяцей, гадуюць іх у беларускай мове і беларускай веры. У сённяшніх умовах гэта з'ява.

Хай гэтыя шустрыя малыя, што прыходзяць на беларускамоўныя ялінкі, вучацца ў беларускамоўных класах, асвойваюцца з камп'ютарамі з пялюшак, менавіта яны пакідаюць надзею, што героі яшчэ знойдуцца, што яны сярод нас. І наступныя гады будуць больш багатыя на неардынарных асоб і прыкметныя падзеі.



Кацярына Кібальчыч арганізавала папулярныя курсы «Мова ці кава».



Аляксандра Герасіменя.

### Мецэнат года — Павел Берагові́ч

У свой час Радзівілы, Сапегі, Пацы і іншыя магнаты, што жылі на тэрыторыі Беларусі, нямала сілаў і сродкаў укладалі ў развіццё культуры — тэатраў, архітэктуры, літаратуры, музыкі, выяўленчага мастацтва. Таму іх прозвішчы добрым словам узгадваюцца і праз шмат стагоддзяў. У Беларусі ўжо мінуў этап першаснага накаплення капіталу. Багатыя людзі зноў маюцца, але сённяшнія Сапегі не надта думаюць аб ежы духоўнай. Хутчэй новы гіпермаркет адкрыюць ці лядовы палац на крайняк. Падтрымлівацьб культуру яшчэ не ўвайшло ў моду.

Бізнэсмен Павел Берагові́ч дае тут іншы прыклад, актыўна дапамагаючы пісьменнікам і выдаўцам. А каб было такіх Бераговічаў чалавек пяцьдзясят, то і справы пайшлі б весялей. Гутарку з бізнэсоўцам чытайце на **старонцы 5**.

### Сімвал года — Кастусь Каліноўскі

Мабыць, пафасна, але Каліноўскі ў год юбілею паўстання чарговы раз прадэманстраваў сваю бессмяротнасць. 150 гадоў прайшло, як Кастуся павесілі на Лукішках, а ён усё адно даводзіць да зубнога скрыгату русафілаў усіх масцей. Каліноўскі сёлета быў у трэндзе — яго партрэты набівалі татуіроўшчыкі, моладзь насіла майкі з героем, найбуйнейшы беларускі партал tut.by у гадавіну пачатку паўстання змясціў на сваім лагатыпе партрэт Каліноўскага. Сарваць юбілей не ўдалося.



Святлана Алексіевіч рэальна прэтэндавала на Нобель.



Макс Корж сабраў поўную «Мінск-Арэну».



Гісторыя кахання Дашкевіча і Палажанкі скончылася вяселлем.

### Музыка года — Макс Корж

Міхалок працягвае заставацца мегапапулярнай асобай. На канцэрт «Ляпіса» ў Вільні прыехала 13 тысяч беларусаў! А яшчэ былі тыя, што ездзілі ў Кіеў, Талін і расійскую глыбінку. Разам з тым сёлета на музычную сцэну ўварваўся малады хлопец з Лунінца Макс Корж. Ён нікога не заклікае на барыкады, ён прапануе моладзі «жыць у кайф», а калі нешта не ўдаецца, то «неба дапаможа нам». І такія лозунгі знаходзяць водгук. Корж стаў першым беларускім музыкам, хто сабраў аншлаг на «Мінск-Арэне». А пачынаў жа ён як белмоўны рэпер, спадзяёмся, што яшчэ вернецца да гэтага.

### Грамадзянская чыннасць года — Кацярына Кібальчыч

Беларусы Масквы палічылі, што белмовы ў іх жыцці вельмі мала. Зладзілі курсы. Ініцыятаркай стала журналістка, аўтарка фільма «Беларуская мара» Кацярына Кібальчыч. Здаецца, нават для саміх арганізатараў стала нечаканкай, што курсы набылі такую папулярнасць. Давялося пашыраць ды экспартаваць курсы ў Мінск, а потым і ў іншыя гарады і краіны. «Мова ці кава» ў забаўляльнай і незанудной форме прапагандавала цікавасць да беларускага слова. Адназначна, залік!

### Вяселле года — Зміцер Дашкевіч і Наста Палажанка

Амаль тры гады Наста чакала Змітра са зняволення. Яны штотыдзень адзін аднаму дасылалі лісты. Дашкевіча асудзілі на два гады, але потым зняволенне падоўжылі, а Палажанка працягвала чакаць. Распісаліся яны яшчэ ў турме, праўда, Дашкевічу не далі нават дзесяці хвілін пабыць з жонкай, абняць, пацалаваць. Сапраўднае вяселле адклалі на вызваленне. Былі сотні гасцей прыгожыя маладыя, якія дачакаліся свайго шчасця. Цяпер Наста чакае першае дзіця.

# Асобы года

### Спартоўцы года — Герасіменя, Талай, Радзівонаў і іншыя

Сёлета мы вырашылі абраць найлепшых у спорце не па ачках, галах, секундах, а за іх грамадзянскую пазіцыю. Плыўчыха Герасіменя, бягуння Талай, футбаліст Радзівонаў, баскетбаліст Куль, кікбаксёр Гуркоў неаднаразова выказвалі свае сімпатыі да беларускай мовы і культуры. Зрэшты, усё гэта топавыя атлеты. Спартыўныя перамогі іх таксама не абышлі бокам.

### Палеміка года — Святлана Алексіевіч

У дзень уручэння Нобелеўскай прэміі па літаратуры букмекеры прымалі стаўкі на Святлану Алексіевіч з фантастычным каэфіцыентам — 1 да 1,5. Аднак узнагароду дастала канадка Эліс Манро. Да Алексіевіч неаднаазначнае стаўленне, і не толькі таму, што яна піша па-расейску. Яна неаднаразова выклікала абурэнне сваімі выказваннямі. Ніколі такога не было, каб два беларусы (яшчэ і Бяляцкі) рэальна прэтэндавалі на Нобеля.

### Звальненне года — Барыс Батура

Калі не робяцца ўчынкі, то ў пашане нават жэсты. А жэст старшыні Мінскага аблвыканкама Барыса Батуры быў вельмі характэрным, калі яго ганебна выганялі з працы за правал мадэрнізацыі на «Барысаўдрэве». Батура стрымаўся, нічога не сказаў, а потым скасавалі загад пасляць яго падымаць барысаўскае прадпрыемства.


Барыс Батура.


Уладзіслаў Лазар.

### Няяснасць года — Уладзіслаў Лазар

Таямнічы быў арышт барысаўскага ксяндза, які нібыта дапамагаў шпіёну ў перадачы інфармацыі. Святар паўгода адбыў у турме КДБ, а потым быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. Цяпер ён служыць у Вілейцы і кажа, што ні ў чым не вінаваты, але не раскрывае ў падрабязнасці справы.

### Страты года — Віктар Івашкевіч, Міхась Чарняўскі і іншыя

Палітык, герой змагання за незалежнасць Віктар Івашкевіч не дачакаўся перачэпкі пячонкі, яго не стала на 55-м годзе жыцця. Выбітны археолаг Міхась Чарняўскі згарэў пасля ракавай хваробы. Поўны спіс стратаў — **старонка 7**.

### Закладнік года — Уладзіслаў Баўмгертнер

Раней у закладнікі бралі толькі палітычных апанентаў улады, каб таргавацца з Еўрасаюзам. Сёлета ж упершыню быў узяты закладнік з Усходу. Для расійскага топ-мэнэджара, гендырэктара «Уралкалія» перамовы з прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаілам Мясніковічам скончыліся турэмнымі нарамі. «Ён сеў, смаркач, перад прэм'ерам, нага за нагу. І кажа, маўляў, і гэтага не будзе, і таго не будзе. Потым выйшаў, плюнуў на Дом урада і паехаў, смеючыся, у аэрапорт. Там яго і ўзялі», — казаў Лукашэнка для расійскіх журналістаў. Затрымлівалі Баўмгертнера паказальна жорстка, надзяваючы наручнікі. Праўда, потым змянілі гнеў на міласць: спачатку перавялі на хатні арышт, а потым увогуле экстрадыравалі ў Расію.


Віталь Радзівонаў забіваў галы, а таксама папулярызаваў беларускую мову.


Фінал конкурса «Міс Мінск» скончыўся вялікім скандалам.



Уладзіслава Баўмгертнера трымалі на расцяжцы.


Віктар Івашкевіч адышоў у 54 гады.

### Выдавец года — Ігар Логвінаў

Шмат гадоў у выдавецтве «Логвінаў» выходзілі кнігі найлепшых беларускіх пісьменнікаў, гісторыкаў. Сёлета Логвінава пазбавілі ліцэнзіі за альбом «Беларусь Прэс Фота-2012», які быў прызнаны экстрэмісцкім. Логвінаў не адчайваецца, кажа, што так ці інакш, але сваёй справай будзе займацца і надалей.


Ігар Логвінаў.

### «Красавіца» года — Яня Канцавенка

Конкурсаў прыгажосці праходзіць процьма. Прычым, амаль усе пад дзяржаўнай эгідай. Скандалам скончыўся фінал «Міс Мінск». Пераможцай стала 21-гадовая Яня Канцавенка. Здавалася б, паглядзелі фоты дзень і забыліся. Але тут так не атрымалася. Блогеры раскапалі дзясяткі здымкаў Канцавенкі зусім не ў цнатлівым вобразе. Пікантныя здымкі дзяўчына хутка павыдаляла з сацсетак, але інтэрнэт нічога не прабачае. Разгараўся скандал. Нават відныя дзяржаўныя мужы, кшталту Чаргінца, выказвалі сваё абурэнне. Потым высветлілася, што астатнія ўдзельніцы таксама не анёлы, былі сярод іх прафесійныя стрыптызёркі, развядзёнкі (што забараняецца). Карону ў Яні не адабралі, але паспрабавалі надаць ёй меней увагі. Сумнявацца не даводзіцца, што ў наступным годзе адбор будзе старанны.

**Людзі мінулых гадоў па версіі «НН»**

**2003** — прадзюсар беларускамоўнай музыкі Віталь Супрановіч

**2004** — старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна

**2005** — палітык Аляксандр Мілінкевіч

**2006** — чалавек Плошчы

**2007** — маладафронтавец

**2008** — трэнер Віктар Ганчарэнка

**2009** — Наталка Васілевіч і іншыя дабрачынцы

**2010** — падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы Мікалай Казлоў

**2011** — музыка Сяргей Міхалок

**2012** — людзі, што вярнулі ў Беларусь Статут ВКЛ: Аляксей Бацюкоў, Зміцер Яцкевіч, Андрэй Радкоў

### Рыба года — сом

«Палец сунеш — за палец рыба хапае! Я асабіста... 57 кілаграмаў сома выцягнуў: 57, 24 і 7 кілаграмаў. Трох самоў злавіў!» Гэта не аповеды рыбакоў пры вогнішчы — гэта словы кіраўніка Беларусі на нарадзе з урадам. Прычым сказана гэта было праз пару дзён, як СМІ растыражавалі фотаздымкі Пуціна з 27-кілаграмовым шчупаком. Выказваліся меркаванні, што гісторыяй з сомам Лукашэнка не проста хацеў уцерці нос Пуціну, але прадэманстраваць, што сённяшняя Беларусь — гэта краіна, дзе не толькі стабільнасць і парадак, але і вяртаюцца тыя бласлаўлёныя часы, калі ў лясах і рэках было мноства звяроў і рыбы.

**Зміцер Панкавец**

# Грамадзянін Расіі стварае музей беларускай шляхты

«Наша Ніва» назвала **расійскага бізнэсоўца Паўла Падкарытава** (Бераговіча) Мецэнатам года.

Бабуля Паўла па кудзелі паходзіць з Віцебшчыны. Пабралася з рускім, падчас вайны эвакуіравала ў Расію, дзе і засталася. Там нарадзіўся і Павел. А калі трапіў у турму, задумаўся пра свае карані. Навучыўся чытаць па-беларуску. Як прыехаў у Беларусь першы раз, то і загаварыў па-наску. А яшчэ далучыўся да падтрымкі беларускамоўных праектаў. Ён — сярод фундатараў беларускіх кніг, заснавальнік літаратурнай прэміі «Дэбют», сярод ахвярадаўцаў на выкуп Статута ВКЛ... Але найбольшы ягоны праект — рэстаўрацыя сядзібы XIX ст. у Ваўкавыскім раёне.

**«Наша Ніва»: Калі Вы загаварылі па-беларуску?**

**Павел Падкарытаў:** Калі прыляцеў першы раз у Беларусь. Мы сустрэліся з Уладзімірам Арловым, ён спытаў, на якой мове да мяне звяртацца. Я адчуў спакушэнне — па-расійску мне было б прасцей. Але адказаў, каб размаўлялі па-беларуску. Цяпер лаўлю сябе на думцы, што нават у расійскамоўным асяроддзі, здараецца, ненаўмысна пераходжу на беларускую альбо ўжываю асобныя беларускія словы.

А месяцы тры таму я прысніў першы сон, у якім прысутнічала беларуская мова. Мне спадабалася, бо мова складае нейкую частку маіх думак: свядома і падсвядома.

**«НН»: Для беларуса матывацыя размаўляць на роднай мове зразумелая. А чым аргументуе сваю пазіцыю расіянін?**

**ПП:** Калі я пачаў цікавіцца Беларуссю, пачаў чытаць па-беларуску. Матывацыя простая: па-беларуску пра Беларусь пішацца найбольш цікава. І не паўстала пытання, на якой мове размаўляе мая Беларусь.

## «У мяне сялянскі карані...»

**«НН» Расійскі бізнэсовец купіў сядзібу XIX стагоддзя ў Беларусі. Проста так?**

**ПП:** Акрамя таго, што мне спадабалася гэтае месца, я заўсёды адчуваю боль, калі цікавыя мясціны, будынкі знаходзяцца ў занепадзе, руйнуюцца. Але галоўнае, відаць, тое, што праз гэты аб'ект я хачу выказаць свой погляд на тое, якой павінна быць гісторыя Беларусі: ужо не чужая мне, а мо і бліжэйшая нават за расійскую. Гісторыя Беларусі павінна ўключаць у сябе такі складнік, як гісторыя шляхты, прасякнутая духам годнасці. Таму я і музей шляхты хачу зрабіць у адрэстаўраванай сядзібе. Паспрабаваць паспрыяць адраджэнню пачуцця годнасці ў людзей, якія не адносяць сябе да высокага саслоўя, як і я — маю ў Беларусі сялянскія карані.

**«НН»: Выдаткавалі 120 тысяч даляраў і яшчэ больш патраціце на рэстаўрацыю без прыкідак атрымаць прыбытак у будучым?**

**ПП:** Стварэнне Музея беларускай шляхты як нейкага артэфакта — справа цалкам дабрачынная. Але мяркую, можна будзе пабудаваць гатэль, кавярню, турыстычны цэнтр з пэўнымі паслугамі адчыніць.

Цяпер мы робім толькі першы крок. Але ўсведамляю, што гэта не павінен быць звычайны музей: памяшканне з шафамі з пыльнымі экспанатамі, дакументамі. Трэба рабіць музей цікавым сучаснаму чалавеку, які валодае інфармацыйнымі гаджэтамі.

**«НН»: Мінуў роўна год, як купілі сядзібу ў Падароску. Што за гэты час удалося зрабіць?**

**ПП:** Мы не маем права нічога рабіць, пакуль не зацверджана дакументацыя па рэканструкцыі/рэстаўрацыі. Становішча такое, што ў студзені працу скончаць інжынеры, якія даследавалі стан падмуркаў, сцен, дахаў усіх будынкаў. Мы правялі невялікую кансервацыю.



**Павел Падкарытаў**

нар. у 1968 у Расіі. Выпускнік Свярдлоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага танкава-артылерыйскага вучылішча (1989), Уральскай дзяржаўнай юрыдычнай акадэміі (1996).

Жанаты, гадуе сына. Жыве ў Таліне. Мецэнат беларускамоўных праектаў.

Мяркую, што вясной пачнём рэстаўрацыю. Спачатку гэта будуць маленькія будынкі. А за палац ужо, відаць, возьмемся нават не ў наступным годзе — праз год.

## «Я адшукаў сваю ідэнтычнасць у Беларусі»

**«НН»: Вы сябе адчуваеце рускім?**

**ПП:** Як казаў Генрых Гейне, чым больш спазнаю людзей, тым больш люблю сабак.

Я не з'яўляюся прыхільнікам афіцыйнай ідэалогіі маёй радзімы. Гэта стварала для мяне заўсёды пэўныя складанасці. Я пачаў адчуваць унутраную нязгоду з тым, што адбывалася навокал, годзе ў 1987-м. Я ў той час вучыўся ў вайскова-палітычнай вучэльні. Быў перыяд, калі, так бы мовіць, я быў у згодзе з Расіяй. Дзесьці пасля таго, як абрынуўся СССР, пачала будавацца незалежная Расія на чале з Барысам Ельцыным. Але гэта было не вельмі доўга. У гады «позняга» Ельцына я расчараваўся ў ім і яго палітыцы. А калі ў 2000 прыйшоў да ўлады Уладзімір Пуцін, я адразу да яго паставіўся варожа. Чалавек, які не толькі працаваў у КДБ, але і лічыць гэта за гонар, нічога добрага для дзяржавы не прынясе. І сёння я таксама ўпэўнены, што тая палітыка адраджэння расійскай імперскасці, той думкі, што Расію павінны баяцца, — тупіковы шлях.

Я не жыву ў Расіі. Складана адчуваю роднасць з дзяржавай, якая не адказвае тваім памкненням. Можа, спроба адшукаць у сабе беларускія карані ёсць формай эміграцыі з Расіі? Я пра гэта думаў. Я пачаў шукаць сабе іншую ідэнтычнасць і знайшоў яе ў Беларусі. Можна запярэчыць, што Беларусь не адрозніваецца ад Расіі ў плане дзяржаўнай палітыкі. Але гэта пры ўсіх палітычных недахопах — не імперыя, а яна ўвесь час змагаецца з імперыяй.

**«НН»: Вы часта бываеце ў Беларусі, а сям'ю сюды прывозілі?**

**ПП:** Так, і не адзін раз мы былі з жонкай і сынам. Год таму мы спрабавалі нават сплавіцца па Прыпяці. Але вельмі не пашанцавала з надвор'ем: былі моцныя залевы. Але былі ў Берасці, Міры, Нясвіжы...

**«НН»: Родным даводзіцца тлумачыць сваю вялікую любоў да краіны альбо яны ўсё зразумелі?**

**ПП:** Для мяне гэты шлях быў абумоўлены жыццёвымі, гістарычнымі абставінамі. А для Вольгі гэта стала нечаканасцю. Цяпер яна разумее, што для мяне значыць Беларусь. Гледзячы на колькасць беларускіх кніжак на паліцы, яна ўсведамляе, якую частку краіна займае ў маіх жыцці і думках.

Антона пацяху прыцягваю да беларускасці. Глядзім разам беларускія мульцікі, слухаем музыку. Часам я гавару з ім па-беларуску, да мяне прыязджаюць беларускамоўныя сябры. Ён прызвычаіўся, каб не бачыць у гэтым нейкія дзівосы. Для яго павінна быць натуральным, што бацька мае беларускія карані, інтарэсы ў Беларусі. І беларус, як я яму цяпер кажу.

## «Арыштавалі, а пасля прапанавалі адкупіцца»

**«НН»: Павел, пяць гадоў вы знаходзіліся ў ізалятары, дзе і далучыліся да беларушчыны. За што Вас арыштавалі?**

**ПП:** Была спроба рэйдарскага захопу нашага бізнэсу, які стварылі некалькі чалавек. І адзін з нас, наш партнёр, з дапамогай адміністрацыйнага рэсурсу больш магутнай эканамічнай групы спрабаваў адсунуць ад кіравання. Тады былі задзейнічаны ўсе магчымыя афіцыйныя сродкі, якімі могуць кіраваць магутныя бізнэс-групы. Робіцца захоп кіраўнікоў кампаніі, яны змяшчаюцца за краты. А затым робяць прапанову, ад якой, як кажуць, немагчыма адмовіцца. Калі адмаўляешся, рызыкуеш частку жыцця правесці ў турме. У нашым выпадку так і было. Патрабавалі адмовіцца ад бізнэсу і прызнаць сваю віну ў пэўных эканамічных злачынствах. Бо машына рэпрэсій запрацавала і не магла спыніцца так, каб нас апраўдаць і выпусціць. Натуральна, мы не маглі прызнаць віну, бо не рабілі нічога з таго, што нам прыпісвалі. За пяць гадоў нашы апаненты зразумелі, што ў іх нічога не атрымаецца. Тады паступіла іншая прапанова: не трэба прызнаваць віну, бо мы правялі працяглы тэрмін за кратамі, але давялося пагадзіцца з пэўнымі эканамічнымі ўмовамі.

**«НН»: Той бізнэс захаваць атрымалася?**

**ПП:** Так, ён захаваўся і пашырыўся нават за межы Расіі. Мы захавалі ўсё, але павінны былі адкупіцца ад рэйдараў.

Цяпер з мяне і судзімасць знятая.

**«НН»: Які ў Вас бізнэс?**

**ПП:** Гэта група кампаній, якая займаецца пераважна абсталяваннем і паслугамі для энергетыкі: будаўніцтва ліній электраперадач, падстанцый і гэтак далей.

**«НН»: Я разумею, што Беларусь — не краіна-мара для замежнікаў. Але ці не задумваліся пра беларускае грамадзянства?**

**ПП:** Я маю права на беларускае грамадзянства як нашчадак беларусаў. Цяпер для мяне ў выбары паміж беларускім і расійскім грамадзянствам няма юрыдычнай розніцы. І калі законам «Аб беларусах замежжа» будзе вызначаны больш просты і зразумелы парадак атрымання беларускага грамадзянства, я яго атрымаю.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**



**Побач з Краскамі**

Сядзіба Падароск знаходзіцца ў Ваўкавыскім раёне. Помнік архітэктуры XIX стагоддзя. Належыла Грыбоўскім, Чачотам... У 1854 маёнтак у Падароску набыў сын вядомага філосафа Фларыяна Бохвіца Раман. Ён і перабудаваў сядзібны дом у стылі позняга класіцызму. Да 2004 у палацы размяшчалася кантора мясцовай гаспадаркі. Але пасля выезду калгаса помнік пуставаў.

Побач з Падароскам, у Красках, знаходзіцца сядзіба Сегліцаў, якую выкупіў таксама расійскі бізнэсовец Вадзім Селіхаў.



Парад для аднаго гледача. Грандыёзнае святкаванне 3 Ліпеня пакінула адчуванне фальшу і паказухі.



Наймацнейшы ўраган «Хаўер» прадэманстраваў вялізную здольнасць простых людзей да самаарганізацыі. «Хаўер» паралізаваў транспартны рух у Мінску, а таксама на асноўных трасах краіны.




Унучкі Лукашэнкі (дочкі Дзмітрыя) Дар’я і Наста перамаглі ў конкурсе сачыненняў на беларускай мове «Гуляй, зіма, твая часіна».



Хіпстарскія велапакатушкі ў Мінску скончыліся штрафамі для арганізатараў.



Патрыярх Кірыла разам з прадстаяцелямі памесных цэркваў наведаў Мінск у рамках святкавання 1025-годдзя Хрышчэння Русі. На мінскае Замчышча прыйшлі тысячы людзей.



Уладзімір Някляеў стаў лаўрэатам прэміі Гедройца за раман «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без».



У красавіку пасля рэканструкцыі быў адкрыты Купалаўскі тэатр.



На волю выйшлі палітвязні Зміцер Дашкевіч, Аляксандр Францкевіч (на фота), Павел Севярынец.

# 2013: **Як гэта было, або Хроніка найбольш значных падзей**

### Студзень

Год беражлівасці пачаўся з падаражанняў. З 1 студзеня на 20% выраслі цэны на сувязь і інтэрнэт, а таксама павялічыліся тарыфы на камунальныя паслугі — да 10%. Зрэшты, гэта было далёка не апошняе падаражанне. Цень інфляцыі і дэвальвацыі суправаджае беларускую эканоміку цэлы год.

«Бацька дэвальвацыі» Пятро Пракаповіч тым часам становіцца віцэ-прэм'ерам.

Пачынаецца святкаванне 150-годдзя паўстання Кастуся Каліноўскага. Разам з тым цэлы год заходнерусісты спрабуюць дыскрэдытаваць героя.

### Люты

Пачынаецца судовы працэс над Сашам Варламавым. Знакаміты мадэльер быў затрыманы яшчэ два гады таму. У ліпені Варламава асуджаюць да пяці гадоў абмежавання свабоды і адпускаюць адбываць пакаранне дома.

Пасады зрокся папа Бенэдыкт XVI. Апошні раз нешта падобнае было 600 гадоў таму.

Над Уралам выбухнуў метэарыт, больш за тысячу чалавек было паранена.

У Мінску арыштавалі расійскага неанацыста Цесака. Яму інкрымінавалася хуліганства з выкарыстаннем зброі, аднак неўзабаве Цесака выпусцілі на свабоду, а крымінальная справа развалілася.

Русіфікатары на чале з намеснікам старшыні Мінгарвыканкама камуністам Ігарам Карпенкам пачынаюць вайну з беларускай лацінкай у тапаніміцы. Яны патрабуюць рабіць транслітарацыю з рускай мовы. Навукоўцы выступаюць катэгарычна супраць і аднагалосна адхіляюць прапановы мінскіх чыноўнікаў.

### Сакавік

Паміраe венесуэльскі лідар Уга Чавес. На красавік прызначаюцца прэзідэнцкія выбары, на якіх з мінімальным адрывам перамагае Нікалас Мадура, паплечнік Чавеса. Але Венесуэла апускаецца ў яшчэ больш глыбокі крызіс.

15 сакавіка на Беларусь абрынуўся снегапад, роўнага якому не было ў гісторыі. «Хаўер» паралізаваў рух на дарогах Беларусі, сотні людзей начавалі на трасах проста ў машынах, занесеных снегам.

### Красавік

У альбоме Belarus Press Photo гродзенскія эксперты знаходзяць «экстрэмізм». 41 сканфіскаваны альбом быў знішчаны.

«Газпраму» дазваляюць выкупіць зямлю пад аўтавакзалам «Маскоўскі». На яго ным месцы расейцы маюць пабудаваць свой офіс.

### Май

Каманду Лукашэнкі на хакейным турніры ў Сочы ловяць на махлярстве. Больш за палову аматарскай каманды аказалася... прафесіяналамі.




**Часопіс Time назваў чалавекам года папу Францішка. А летась быў адзначаны Барак Абама, прычым другі раз за жыццё.**

Трагедыя ў прыватным медцэнтры «Экамедсэрвіс». Пацыентка Юлія Кубарава памірае пасля аперацыі па пластыцы носа. У выніку расследавання была заведзеная крымінальная справа і пачаўся ціск на прыватную медыцыну.

На «Еўрабачанні» ў Швецыі перамагае датчанка Эмілі дэ Форэст. Беларуска Алёна Ланская ў фінале была толькі 16-й.

### Чэрвень

Па Беларусі крочыць афрыканская чума свінняў. У некаторых рэгіёнах краіны вынішчаюцца ўсе свінні, у іншых параўнальна спакойна.

Самая гучная аварыя года — каля аэрапорта «Мінск-2» згарэў «Бэнтлі-Кантыненталь GT». Аўто ляцела на хуткасці пад 250 км/г і сутыкнулася з «Фальксвагенам-Пасатам», які разварочваўся ў недазволеным месцы.

Еўрасаюз часова здымае санкцыі з міністра замежных спраў Уладзіміра Макея.

Конкурс «Міс Мінск», на якім перамагла Яня Канцавенка, скончваецца скандалам. Інтэрнэт «узарвалі» нясціплыя фотаздымкі ўдзельніц. Сярод іх пазналі і стрыптызёрак, і выканаўцаў прыватных танцаў, і нават топлес-дыджэя. Фінал конкурса ў эфіры так і не паказалі.

### Ліпень

Апаратар «Нафтана» Андрэй Гайдукоў асуджаны на 1,5 года пазбаўлення свабоды ў калоніі строгага рэжыму. Яго вінавацяць у замаху на здзяйсненне злачынства без прыкметаў здрады дзяржаве. Гайдукова прызнаюць палітвязнем.

Становіцца вядома пра арышт ксяндза Уладзіслава Лазара. Яму інкрымінуецца «перадача грошай чалавеку, якога вінавацяць у шпіянажы». Справа не закрытая дагэтуль, аднак ксяндза выпусцілі з ізалятара пад падпіску аб нявыездзе. Цяпер ён служыць у Вілейцы.

Пачынаецца «калійная» вайна паміж Беларуссю і Расіяй. У выніку закрыцця «Беларускай калійнай кампаніі» і страты пакупнікоў угнаеннняў беларускі бюджэт недалічыўся некалькіх мільярдаў даляраў.

Дэмарш: літаратары пачынаюць сыходзіць адзін за адным з дзяржаўнага Саюза пісьменнікаў. Заявы напісалі Андрэй Федарэнка, Алесь Наварыч, Валер Гапееў, Раіса Баравікова, Алена Масла. Большасць з іх вярнулася ў недзяржаўны Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Правал БАТЭ — упершыню за пяць гадоў футбалісты не трапляюць у групавы турнір еўракубкаў, прайграўшы казахам.

### Жнівень

На тле калійнай вайны Уладзімір Пуцін і Аляксандр Лукашэнка мераюцца... рыбай. Першы пахваліўся злоўленым шчупаком вагой 27 кг, другі праз некалькі дзён — сомам вагой 57 кг!

У мінскім СІЗА памірае арыштант. Хто збіў да смерці 21-гадовага Ігара Пцічкіна? Адказаў дагэтуль няма. Акцыю памяці Пцічкіна разганяе міліцыя.

28 жніўня выходзіць на волю лідар «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч. За кратамі ён правёў больш за 2,5 года.

### Верасень

Ад 3 верасня на свабодзе яшчэ адзін палітвязень — Аляксандр Францкевіч.

Аляксандр Лукашэнка прапануе збіраць па $100 за выезд за мяжу на закупы. Аднак здаровы сэнс перамог: ініцыятыва так і не была рэалізаваная.

Неўзабаве Лукашэнка атрымлівае Шнобелеўскую прэмію за ранейшыя дасягненні: забарону публічных апладысментаў.

Расійскі апазіцыянер Аляксей Навальны кідае выклік дзейнаму мэру Масквы Сяргею Сабяніну. На перавыбарах улады кандыдат набраў усяго 51%. 28% галасоў, якія дасталіся Навальнаму, фактычна не дазволілі адправіць яго ў турму. Вынесены раней прысуд быў заменены на ўмоўнае пакаранне.

Тэатр оперы і балета адкрывае сезон прэм'ерай неадназначнага спектакля «Вітаўт».

28-29 верасня ў Жлобіне адбываюцца «Дажынкі».

### Кастрычнік

Праваабаронцы Алесь Бяляцкі і пісьменніца Святлана Алексіевіч аказваюцца сярод фаварытаў на атрыманне Нобелеўскіх прэмій. Аднак перамагаюць не яны.

Выдавецтва Ігара Логвінава пазбаўляюць ліцэнзіі.

19 кастрычніка вызвалены хрысціянскі дэмакрат Павел Севярынец.

Пачынае працаваць спартыўны канал «Беларусь-5».

Урачыста адкрываецца Палац Незалежнасці — рэзідэнцыя ў цэнтры Мінска, якая каштавала сотні мільёнаў даляраў.

### Лістапад

У бюджэце бракуе грошай, таму ўрад прапануе ўвесці «падатак на аўто». У снежні ідэю зацвярджае парламент.

Саміт Усходняга Партнёрства ў Вільні скончваецца перамогай Расіі. Пасля шантажу з боку Масквы Украіна і Арменія адмаўляюцца падпісваць пагадненні з Еўрасаюзам.

Аляксандр Лукашэнка ініцыюе судовую рэформу. Каб яе ажыццявіць, давядзецца правесці рэферэндум.

### Снежань

У Кіеве праходзіць «Еўрамайдан». Бестэрміновая акцыя пратэсту працягваецца больш за месяц. Падчас яе кіяўляне зносяць апошні ў горадзе помнік Леніну.

**Ягор Марціновіч**

### Яны адышлі ад нас за 2013 год

**Юры Гумянюк** — паэт, журналіст
**Міхась Чарняўскі** — гісторык, археолаг
**Сяргей Гурэўскі** — генеральны консул Беларусі ў Бразіліі
**Юзаф Глемп** — польскі кардынал
**Мікалай Амельяновіч** — першы старшыня Нацбанка
**Арцём Грыбкоў** — былы палітвязень
**Сакрат Яновіч** — пісьменнік, Крынкі
**Аляксандр Шчарбак** — грамадскі актывіст, Шклоў
**Васіль Старавойтаў** — старшыня легендарнага калгаса «Світанак»
**Міхаіл Высоцкі** — генеральны канструктар МАЗа, герой Беларусі
**Мікола Арочка** — паэт, літаратуразнаўца
**Рагнеда Аляхновіч** — савецкая дачка прэзідэнта БНР Вінцэнта Жук-Грышкевіча
**Валянцін Грыцкевіч** — гісторык
**Уга Чавес** — прэзідэнт Венесуэлы
**Раман Вайніцкі** — старшыня згуртавання беларускіх суполак Літвы
**Андрэй Панін** — расійскі акцёр
**Марыя Пахоменка** — спявачка з беларускімі каранямі
**Барыс Беразоўскі** — расійскі алігарх
**Валерый Залатухін** — расійскі акцёр
**Віктар Чарноў** — палітолаг
**Хведар Піскуноў** — стваральнік «Вялікага слоўніка беларускай мовы»
**Міхась Баяроўскі** — дзеяч эміграцыі, Вялікабрытанія
**Святлана Рыжова** — футбалістка
**Маргарэт Тэтчэр** — былы прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі
**Георгі Валкавыцкі** — заснавальнік беластоцкай «Нівы»
**Мікалай Вайцянкоў** — былы старшыня Гомельскага аблвыканкама
**Міхал Шарамет** — маладафронтавец, МНСнік
**Нінэль Шчасная** — мастачка
**Уладзімір Сулкоўскі** — мастак
**Віктар Піскун** — акцёр Брэсцкага драмтэатра
**Аляксей Балабанаў** — расійскі рэжысёр
**Пятро Тадароўскі** — расійскі рэжысёр
**Ігар Градабоеў** — футбаліст
**Ігар Калянькоў** — спартыўны журналіст, каментатар
**Юрась Бушлякоў** — мовазнаўца, журналіст
**Уладзімір Стальмашонак** — мастак
**Ізн Бэнкс** — шатландскі пісьменнік
**Віктар Чайкоўскі** — брэсцкі прадпрымальнік
**Алена Кобец-Філімонава** — пісьменніца
**Уладзімір Сакалоўскі** — даследчык беларуска-нямецкіх сувязяў
**Ігар Міклашэвіч** — фізік
**Уладзімір Сакульскі** — гукарэжысёр
**Міхаіл Янчук** — журналіст, пісьменнік
**Кастусь Харашэвіч** — мастак
**Ігар Сімбіроў** — бард
**Алена Лось** — мастачка-ілюстратарка
**Анатоль Будаеў** — былы футбаліст «Шахцёра»
**Жанна Грынюк** — псіхолаг, маркетолаг
**Міхаіл Гаршанёў** — расійскі музыка, «Кароль і Шут»
**Ніна Глобус** — бібліятэкарка, маці Міраслава і Уладзіміра Адамчыкаў
**Дзмітрый Баранаў** — музычны прадзюсар
**Славамір Мрожак** — польскі драматург
**Генадзь Суднік** — журналіст, Магілёў
**Арлен Кашкурэвіч** — народны мастак Беларусі
**Шэймас Хіні** — лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1995 года
**Юрый Кулік** — дырэктар Тэатра юнага гледача
**Віктар Маркавец** — мастак
**Генадзь Лавіцкі** — былы старшыня КДБ
**Святлана Волкава** — грамадская актывістка
**Мікола Крукоўскі** — прафесар, філосаф
**Змітрок Куніцкі** — полацкі літаратар
**Норберт Рандау** — перакладчык беларускай літаратуры на нямецкую
**Віктар Івашкевіч** — палітык
**Кацярына Безмацерных** — блогер, журналіст
**Юрый Леднік** — вядучы БТ
**Яана Хмялеўская** — польская пісьменніца
**Насця Бруснікіна** — заснавальніца мінскага эротык-шоу
**Аляксандр Салодкаў** — рэктар Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта
**Міця Аўчыннікаў** — гангста-рэпер
**Тадэвуш Мазавецкі** — першы кіраўнік посткамуністычнай Польшчы
**Вікторыя Старасценка** — праваабаронца
**Аляксей Кузьміч** — мастак
**Андрэй Ахрэм** — каталіцкі святар, Івянец
**Уладзімір Кулажанка** — доктар эканамічных навук
**Галіна Дракахруст** — сацыёлаг
**Дорыс Лесінг** — лаўрэатка Нобелеўскай прэміі па літаратуры 2007 года
**Віктар Толкач** — удзельнік каманды КВК БДУ
**Наталля Гарбанеўская** — савецкая дысідэнтка
**Юрый Якаўлеў** — расійскі акцёр
**Нэльсан Мандэла** — былы прэзідэнт ПАР
**Зміцер Іваноўскі** — мастак, Гродна
**Сяржук Мацін** — паэт, студэнт

# Аўтамабілісты арганізавалі шумную акцыю

Кіроўцы пратэставалі **супраць падатку на машыны.**

Ідэя чыноўнікаў збіраць з аўтамабілістаў грошы на дазвол да руху выклікала абурэнне грамадства. За большасць легкавікоў ціпер давядзецца плаціць каля $70 за год.

Прапановы выехаць на пратэст супраць уводзення новага збору з'явіліся ў інтэрнэце. Арганізатары вярнуліся да фармату «рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі» — ананімныя заклікі праз «Укантакце» прапаноўвалі пратэстуючым сабрацца ў цэнтры сваіх гарадоў.

Саму акцыю меркавалася зрабіць копіяй паспяховага «Стоп-Бензіну». Летам 2011-га аўтамабілістам удалося перакрыць праспект Незалежнасці і дамагчыся змяншэння цэнаў на паліва, якія падскочылі напярэдадні.

На заклікі ў інтэрнэце адрэагавала і ДАІ. Кіроўцам пагражалі вялікімі штрафамі за парушэнне правілаў спынення і стаянкі. Але як штрафаваць, калі аўто «зламалася» ў патрэбны час у патрэбным месцы?

**Што кажа закон?**

Парушэнне правілаў карыстання гукавымі сігналамі цягне за сабой папярэджанне ці штраф да 3 базавых велічыняў . Гэта не больш за 390 тысяч рублёў.

Калі парушальнік прызнае сваю віну, у дачыненні да яго прымяняецца мінімальны прадугледжаны штраф альбо не больш за 65 тысяч рублёў (калі артыкул кодэкса не прадугледжвае ніжняй мяжы).

### Як у часы маўклівых рэвалюцый

У Мінску яшчэ за дзесяць хвілін да пачатку акцыі пра яе нагадвалі толькі супрацоўнікі ДАІ, расстаўленыя на кожным скрыжаванні. Першыя машыны замігалі аварыйкамі роўна а 18-й. І літаральна за некалькі хвілін рух на праспекце запаволіўся, а прастора запоўнілася гукамі клаксонаў. Здавалася, што апантана сігналілі ўсе: і маршруткі, і прадстаўнічыя аўто, і старыя савецкія машыны.

А ўздоўж праспекта — як у часы «маўклівых рэвалюцый» — людзі апладзіравалі смелым кіроўцам.

Пра планаваную акцыю ведалі не ўсе. Кіроўца мікрааўтобуса з гомельскімі нумарамі спачатку спалохана азіраўся, не разумеючы, што адбываецца навокал. А даведаўшыся, са шчаслівай усмешкай націснуў на гукавы сігнал.

Супрацоўнікі ДАІ спачатку не ўмешваліся ў сітуацыю, толькі запісвалі ў нататнікі нумары машын, кіроўцы якіх сігналілі.

«Нашае аўто спынілі на скрыжаванні з Камсамольскай вуліцай. ДАІшнік спытаўся, чаму так марудна рухаемся, — расказвае ўдзельнік акцыі. — Мы сказалі, што нешта пад капотам грукаціць, вось патроху і едзем дадому. Ён кажа: «А давайце вы не па праспекце паедзеце, а дзе-небудзь па суседніх вуліцах?» І сам жа зразумеў абсурднасць сваёй прапановы. Сказаў «Шчаслівай дарогі!» — і развітаўся».

### Раптоўная паломка

Вяршыняй смеласці было дэманстратыўна спыніцца і, выставіўшы аварыйны знак, перакрыць праспект. На гэта адважыліся нямногія.

У аднаго з кіроўцаў, Канстанціна Глушка, аўто «заглохла» проста на скрыжаванні насупраць цырка. Разам з пасажырам Андрэем Самохіным ён закрыўся ў машыне і стаў чакаць дапамогі. Урэшце людзі ў цывільным выцягнулі кіроўцу з салона і завалаклі да аўтазак. А машыну ўцягнуў эвакуатар.

Яшчэ адна машына «зламалася» на ўзгорку каля Кастрычніцкай плошчы, іншая — каля «Цэнтральнага». ДАІшнікі адштурхалі аўтамабілі на ходнікі, дзе пачалі высвятляць адносіны з кіроўцам.

Пабачыўшы, што колькасць «салідарных» мінакоў расце, у справу ўмяшаўся АМАП. Ланцуг спецназаўцаў адагнаў людзей ад праезнай часткі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Людзі на тратуарах апладзіравалі смелым кіроўцам.

### Лёс затрыманых

Каля плошчы Перамогі тым часам затрымалі былога палітвязня Аляксандра Францкевіча. Ён здымаў пратэсты на відэа. Калі людзі ў цывільным пацягнулі хлопца да машыны, за яго заступіліся дзве дзяўчыны, Настасся Кухто і Настасся Шатэрнік. У пастарунку апынуліся ўсе трое.

23 снежня на судзе дзяўчын аштрафавалі, а вось Францкевічу прысудзілі 12 сутак арышту.

Затрыманыя Канстанцін Глушко і Андрэй Самохін таксама правялі выходныя ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. Іх вінавацілі ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі. Хоць да Глушко падышлі не міліцыянты ці ДАІшнікі, а людзі ў цывільным, якія нават не прадставіліся. Тым не менш яго прысудзілі да пяці сутак арышту. Самохін быў пасажырам, таму высунуць абвінавачанне для яго было яшчэ складаней. У выніку хлопца выпусцілі ў зале суда.

**Ягор Марціновіч**

## Дзяржава ўводзіць абавязковую рэгістрацыю кнігарняў

Раней абавязковая рэгістрацыя тычылася толькі **выдаўцоў і вытворцаў.**

Згодна з законам «Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь», да іх далучылі распаўсюднікаў. Прычым менавіта кніжнай прадукцыі, а не толькі газет і часопісаў. Распаўсюднікі павінны быць уключаны ў Дзяржаўны рэестр і атрымаць пасведчанне аб рэгістрацыі. Толькі пры такой умове яны маглі працягваць сваю дзейнасць.

Заўважым, што большасць рускамоўных кніг, якія маюць вялікія наклады, свабодна прадаюцца ў кнігарнях і шапіках. А вось беларускамоўныя выданні, якія выходзілі ў прыватных выдавецтвах, знайсці там складана.

Згодна з законам, распаўсюднікі, якія займаліся сваёй працай да прыняцця дакумента, маглі працаваць без рэгістрацыі яшчэ шэсць месяцаў. З ліпеня прайшло амаль паўгода. Атрымліваецца, менавіта са студзеня 2014 годзе яны будуць кіравацца ў сваёй дзейнасці ўжо іншымі правіламі.

Юрыст Сяргей Зікрацкі лічыць рэгістрацыю выдаўцоў і вытворцаў лагічным крокам, а вось распаўсюднікаў — незразумелым. Магчыма, гэта спроба Міністэрства інфармацыі ўвесці кантроль над гэтай сферай, якая раней толькі ліцэнзавалася.

У сталічнай «Акадэмкнізе» «НН» пацвердзілі, што падрыхтавалі неабходны пакет дакументаў і ўжо атрымалі пасведчанне аб рэгістрацыі. Рыхтуе адпаведныя паперы і кнігарня «Ў». Гэтак дзяржава зможа кантраляваць усю сферу распаўсюду.

**Глеб Кандрацьеў**



**Фотафакт**

### Хадаркоўскі на волі

Расійскі алігарх, былы ўладальнік «Юкаса» Міхаіл Хадаркоўскі выйшаў на волю. У турме ён правёў больш за 10 гадоў, а выйшаў за 10 месяцаў да сканчэння тэрміну, пасля таго як напісаў прашэнне на імя Уладзіміра Пуціна. Таксама на волі апынуліся дзяўчаты з Pussy Riot. Мяркуецца, што гэта робіцца да пачатку Алімпіяды ў Сочы. Ціпер Хадаркоўскі ў Нямеччыне, ён называе гэта «часовай эміграцыяй».

## Расія дае Беларусі ў 2014-м нафты па максімуме

Нас чакае **год эканамічнага росту?**

Масква і Мінск дамовіліся пра пастаўку нафты ў Беларусь у аб'ёме 11,5 млн тон у першым паўгоддзі 2014, паведамляецца на сайце ўрада Расіі.

Гэта роўна столькі, колькі прасіў беларускі бок. Калі аб'ёмы пастаўкі захаваюцца ў другім паўгоддзі, то агульная гадавая колькасць складзе 23 млн тон.

Сёлета Беларусь атрымае толькі каля 20,5 млн тон нафты. Гэта выклікала рэзкае скарачэнне аб'ёмаў экспарту з нашай краіны.

Нафтапрадукты застаюцца асноўнай крыніцай валюты для Беларусі, таму пастаўка нафты па поўнай азначае, што наступны год стане годам эканамічнага росту. Калі, вядома, сусветныя цэны на нафту не ўпадуць.

Намеснік старшыні ўрада Расіі Аркадзь Дварковіч і першы намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Уладзімір Сямашка на сустрэчы ў пятніцу дамовіліся, што бакі да канца 2013 гатовыя таксама падпісаць індыкатыўныя балансы па пастаўках вугалю, электраэнергіі і газу.

У 2013 у выніку супярэчнасцяў дамовы на пастаўкі нафты былі квартальныя. Мінск спадзяваўся падпісаць баланс на 2014. Як стала вядома з крыніц ва ўрадзе Расіі, Масква абумоўлівала падпісанне зрухамі ў прыватызацыі шэрагу беларускіх прадпрыемстваў. Падпісанне ўрадам праектаў акцыянавання пяці прадпрыемстваў, у тым ліку Мінскага завода колавых цягачоў, было зроблена, каб дабіцца нафтавага балансу.

«У прыватнасці, гаворка [на сустрэчы Дварковіча і Сямашкі] ішла аб праектах з расійскімі кампаніямі ААТ «МЗКЦ», ААТ «Інтэграл», ААТ «Пеленг», ААТ «Гродна Азот», а таксама аб ходзе рэалізацыі праекта ААТ «КамАЗ» і ААТ «МАЗ», — заўважана ў тым самым паведамленні ўрада, у якім інфармуецца пра аб'ём пастаўак нафты.

**Сяргей Гезгала**

# 2014

## Студзень
**1** — Новы год.
**6** — Тры каралі ў каталікоў; Вадохрышча ва ўніятаў.
**7** — Раство Хрыстова ў праваслаўных; 50 гадоў амерыканскаму акцёру Нікаласу Кейджу.
**14** — 75 гадоў народнаму мастаку Беларусі Васілю Шаранговічу.
**17** — 50 гадоў пісьменніку Андрэю Федарэнку.
**19** — Вадохрышча ў праваслаўных; 75 гадоў народнай артыстцы Беларусі Таццяне Мархель.

## Люты
**2** — Грамніцы ў каталікоў, уніятаў.
**5** — 50 гадоў гісторыку Уладзіміру Ляхоўскаму.
**6** — 100 гадоў паэту Аркадзю Куляшову.
**14** — Дзень Святога Валянціна.
**15** — Грамніцы ў праваслаўных.
**21** — Міжнародны дзень роднай мовы.
**24** — Масленіца ў праваслаўных і ўніятаў.

## Сакавік
**5** — Папялец у каталікоў.
**8** — Міжнародны жаночы дзень.
**9** — 200 гадоў украінскаму паэту Тарасу Шаўчэнку.
**15** — Дзень Канстытуцыі; Пурым у юдзяў.
**16** — 50 гадоў мастаку і паэту Міхалу Анемпадыставу.
**22** — 150 гадоў таму быў павешаны паўстанцкі камандзір Кастусь Каліноўскі.
**25** — Дзень Волі.

## Красавік
**1** — Дзень дурня.
**12** — Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі.
**18** — 200-годдзе археолага Яўстаха Тышкевіча.
**20** — Вялікдзень у каталікоў і праваслаўных.
**25** — 75 гадоў тэлевядучай Зінаідзе Бандарэнцы.
**26** — Дзень Чарнобыльскай трагедыі.
**29** — Радаўніца — вясновы дзень памінання продкаў.

## Май
**1** — Дзень працы.
**9** — Дзень Перамогі; Дзень Еўропы.
**11** — Дзень Святога Кірылы Тураўскага.
**24** — Дзень славянскага пісьменства; 50 гадоў украінскаму музыку Алегу Скрыпку.

## Чэрвень
**2** — 50 гадоў філосафу і пісьменніку Ігару Бабкову.
**5** — Дзень Святой Еўфрасінні Полацкай.
**8** — Тройца ў каталікоў і праваслаўных.
**20** — 75-годдзе народнага артыста Беларусі Валерыя Раеўскага.
**23** — Купалле.
**28** — Сабор беларускіх святых; пачатак месяца Рамадан у мусульманаў.
**29** — Пятра і Паўла ў каталікоў, уніятаў.

## Ліпень
**2** — Дзень Маці Божай Будслаўскай, апякункі Беларусі.
**6** — Сусветны дзень пацалункаў.
**7** — Івана ў праваслаўных.
**12** — Пятра і Паўла ў праваслаўных.
**27** — Дзень абвяшчэння Дэкларацыі аб суверэнітэце ў 1991-м.
**31** — 25 гадоў тэнісістцы, алімпійскай чэмпіёнцы Вікторыі Азаранцы.

## Жнівень
**15** — Унебаўзяцце Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў каталікоў, уніятаў.
**19** — Яблычны Спас у праваслаўных.
**26** — 100 гадоў аргенцінскаму пісьменніку Хуліа Картасару.
**28** — Спленне ў праваслаўных.

### Студзень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

### Люты

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | |

### Сакавік

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

### Красавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

### Май

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

### Чэрвень

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

### Ліпень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

### Жнівень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

### Верасень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

### Кастрычнік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

### Лістапад

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

### Снежань

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## Верасень
**1** — Сусветны дзень ведаў.
**2** — 50 гадоў канадскаму і амерыканскаму акцёру Кіану Рыўзу.
**5** — 50 гадоў рэжысёру Сяргею Лазніцы.
**7** — Дзень беларускага пісьменства.
**8** — Дзень беларускай вайсковай славы.
**14** — Узвіжанне Крыжа Гасподняга ў каталікоў і ўніятаў.
**24-26** — Рош Ха-Шана (Новы год) у юдзяў.
**27** — Узвіжанне Крыжа Гасподняга ў праваслаўных.

## Кастрычнік
**1** — Пакроў ва ўніятаў.
**4** — Курбан-байрам у мусульманаў.
**5** — Дзень настаўніка.
**6** — 100-годдзе нарвежскага вандроўніка Тура Хеердала.
**7** — 75 гадоў драматургу і тэатразнаўцу Уладзіміру Халіпу.
**14** — Пакроў у праваслаўных.
**21** — 100 гадоў таму нарадзіўся кардынал, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Казімір Свёнтэк.
**25** — Рас-ас-Сана (Новы год) у мусульманаў.
**31** — Ірландска-амерыканскае свята Хэлоўін.

## Лістапад
**1** — Дзень усіх святых у каталікоў.
**2** — Дзяды — восеньскі дзень памінання продкаў.
**3** — 50 гадоў літаратуразнаўцу Аляксандру Фядуту.
**16** — Дзень Маці Божай Вастрабрамскай.
**26** — 75 гадоў амерыканскай спявачцы Ціне Цёрнер.
**28** — пачатак Піліпаўкі, посту перад Божым Нараджэннем у праваслаўных.

## Снежань
**3** — Дзень бульбы.
**10** — Дзень правоў чалавека.
**16** — 75 гадоў манаху і паэту Алегу Бембелю (Знічу).
**25** — Божае Нараджэнне ў каталікоў, уніятаў, пратэстантаў.

## Юбілеі года
**700 гадоў таму** войска ВКЛ на чале з Давыдам Гарадзенскім разбіла крыжакоў каля Навагрудка.
**500 гадоў таму**, 8 верасня, войскі ВКЛ на чале з Канстанцінам Астрожскім пад Оршай разбілі ўтрая большае войска Масковіі.
**200 гадоў** таму ў Мінскай губерні нарадзіўся Іосіф Гашкевіч, дыпламат, вучоны-мовазнавец, даследчык Японіі і Кітая.
**175 гадоў** таму скончана будаўніцтва Аўгустоўскага канала, які злучыў сістэмы рэк Нёмана і Бебжы.
**150 гадоў** таму на валюце ЗША з'явіўся надпіс «In God We Trust» («Спадзяёмся на Бога»), які захоўваецца да сёння.
**100 гадоў** таму пачалася Першая сусветная вайна.
**75 гадоў** таму пачалася Другая сусветная вайна; Заходнюю Беларусь далучылі да БССР.
**50 гадоў таму** ў Рэчыцкім раёне было знойдзена першае прамысловае радовішча нафты; заснаваны Мінскі радыётэхнічны інстытут (БДУІР).
**25 гадоў таму** заснаваны Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і Таварыства беларускай культуры ў Літве; бразільскі гурт Каома запісаў хіт «Ламбада».
**450 гадоў таму** вялікалітоўскае войска на р. Ула перамагло маскоўцаў — быў сарваны наступ на нашыя землі.

## Працоўныя суботы 2014
4 і 11 студзеня, 3 мая, 12 ліпеня, 20 снежня.

# «Пасля Навінак я быў гатовы ўсё прызнаць»

Міхаіла Гладкага на восем год пасадзілі за забойства брата і толькі пасля знайшлі **сапраўднага забойцу**.



У Беларусі вынесены чарговы смяротны прысуд, ужо чацвёрты за год. Пра справу 53-гадовага Эдуарда Лыкава, якому інкрымінуецца пяць забойстваў (чытай урэзку), грамадскасць даведалася ўжо пасля рашэння суда. Толькі пасля таго, як пра акалічнасці справы паведамілі праваабаронцы, Следчы камітэт прадаставіў інфармацыю СМІ.

Прызнанне следчых было шакуючым. Як выявілася, за два забойствы, здзейсненыя Лыкавым, у турму трапіў невінаваты чалавек. Яго асудзілі за тое, што ён нібыта сп'яна забіў свайго 38-гадовага брата. «Сам сябе пераканаў у тым, што забіў брата за тое, што той загубіў маці. Адбыў пакаранне і шчыра здзівіўся, калі даведаўся, што тут ні пры чым», — іранізуе «Советская Белоруссия». Хоць што тут іранізаваць? Тут плакаць трэба, тут гнеў закіпае.

«Сам сябе пераканаў» — вось пачытайце, як і хто яго змушаў «пераканаць сябе».

### «Расказвай, як цябе білі»

«Наша Ніва» знайшла таго самага чалавека, які быў ні за што пакараны, а пасля нібыта «шчыра здзівіўся» гэтаму.

Ахвярай памылкі праваахоўных органаў і суда стаў Міхаіл Гладкі. Пасля адбыцця пакарання ён вярнуўся ў родную вёску Кіршы пад Заслаўем.

Ці гатовы Гладкі ўзгадаць акалічнасці той справы?

«Расказвай, як цябе білі, як прымусілі падпісаць дакументы, як цябе да батарэі прывязвалі, як у туалет не пускалі!» — кажа Марыя, з якой яны жывуць у адной хаце.

Міхаіл доўга маўчыць і толькі пасля пераносіцца ў думках у той трагічны дзень у 2002-м, які разламаў яго жыццё на «да» і «пасля».

### Хвальба цаной у жыццё

Ягоны брат Віктар сядзеў у калоніі разам з Эдуардам Лыкавым. Расказваў пра сваё багатае жыццё на волі: маўляў, ёсць і катэдж, і матацыкл. Але калі Лыкаў прыехаў да сукамерніка ў госці, пабачыў толькі нягеглую хатку. Аказалася, Віктар хваліўся маёмасцю брата Міхаіла, які жыў асобна.

Знаёмыя выпілі, і пачаліся разборкі. Маці паспрабавала абараніць сына, але марна. Лыкаў нанёс старой восем удараў нажом, а пасля сякерай забіў і былога сукамерніка.

Забойца сышоў не адразу. Ён пераначаваў у хаце і толькі раніцай ціхком пакінуў месца злачынства.

На наступны дзень пасля жорсткага забойства ў матчыну хату зайшоў старэйшы сын Міхаіл. «За дзень да таго яна атрымала пенсію, я хацеў частку грошай забраць, каб купіць ёй ежу. Заходжу — гэта было недзе тры гадзіны дня, — маці ляжыць у крыві поперак ложка. А побач брат...» — узгадвае ён.

Гаварыць яму цяжка. Калі ўзгадвае пра маці, голас пачынае дрыжаць, вочы наліваюцца слязьмі.

Міхаіл падумаў, што гэта Віктар забіў маці, — пра існаванне Лыкава ён і не здагадваўся.

### Крымінальнае мінулае брата

Маці не раз прыходзіла да старэйшага сына з сінякамі — Віктар яе біў, забіраў грошы і прапіваў іх. Сам ён пасля вызвалення нідзе не працаваў.

Упершыню мужчына трапіў за краты за тое, што скраў грошы і ўпрыгожанні ў... Міхаіла. «Там быў пярсцёнак, які бацька маёй жонцы падарыў. Я тыдзень хадзіў да брата, прасіў: «Вярні. Ці хаця б скажы, каму здаў, каб я іх выкупіў». А ён мяне паслаў на тры літары... Тады мая жонка напісала на яго заяву», — узгадвае ён.

Віктару прысудзілі два гады зняволення.

Жонка Віктара не дачакалася яго з турмы, адразу пасля арышту падала на развод. Разам з дзецьмі яна засталася ў заслаўскай кватэры, а ён пасля вызвалення пайшоў жыць да маці.

### Праігнараванае алібі

Пабачыўшы нежывую маці, Міхаіл згубіў кантроль над сабой: «Я стукнуў брата два разы ад адчаю, але ўжо па мёртвым целе». — «Рукой?» — «Сякерай...» Пазней, кажа ён, экспертыза пацвердзіла, што забойства брата адбылося за дзень да таго.

Міхаіл сам выклікаў «хуткую» і міліцыю. Яго ж адразу і зрабілі падазраваным, не зважаючы на алібі і іншыя супярэчнасці.

«Кроў была аж на стол — а на мне ні кроплі...» — паўтарае Міхаіл раз за разам важкі аргумент.

Асноўнай сведкай на судзе над Міхаілам была Марыя, тая самая, з якой ён цяпер жыве. У дзень, калі былі знойдзеныя трупы, ён уцяпляў ёй хлеў. Адышоў да маці і адразу ж прыбег, расказаў, што ўбачыў.

«Ён цэлы дзень быў у мяне. І ніяк не мог іх забіць!» — тлумачыла Марыя, але ні следчыя, ні пракурор, ні суддзя не ўлічылі яе паказанні.

Былі і іншыя сведкі. Адзін з суседзяў, Васіль, расказваў, што бачыў, як Віктар ішоў дадому з незнаёмым чалавекам. Але яго не толькі не паклікалі на суд, а нават не дапыталі следчыя.

### Абарона без адваката

Пасля затрымання Міхаіла адвезлі на псіхіятрычную экспертызу ў Навінкі. «Зрабілі там здымак грудной клеткі, бо міліцыянты мне прыкладамі настукалі».

Перапытваем: «Вас у міліцыі білі, калі забралі?» — «Так». — «За што?» — «Не ведаю».

Гладкі некалькі разоў узгадвае экспертызу. «Усё, што з Навінак, я памятаю — як сяджу перад талеркай з макаронай. Можа, мне там нешта падмешвалі? Але калі мяне адтуль прывезлі, мне было ўжо ўсё адно, што са мной будзе далей», — кажа Міхаіл.

Паўгода ён правёў у ізалятары на Валадарцы. Чым дапамагала адвакатка Жанна Кабяк, якой падчас следства было 23 гады? «Ды я яе першы раз на судзе ўбачыў», — прызнаецца Гладкі. Кабяк дагэтуль працуе адвакатам, аднак адмовілася каментаваць падрабязнасці той справы.

### «Не «дурны» ж я!»

Нядзіва, што суд быў кароткім.

— Вы цалкам прызналі сваю віну?

— Пасля Навінак я быў гатовы ўсё прызнаць... Я бачыў, як там вар'яты сядзяць, баяўся, каб мяне не прызналі «дурнем».

— Таму і прызналі віну?

— Таму і прызнаў...

Міхаіл тройчы пачынае фразу, але не можа яе працягнуць — перабівае дыханне:

— Але не «дурны» ж я!

Мінскі раённы суд прысудзіў Гладкага да васьмі гадоў зняволення. Пракурор патрабаваў даць на год больш. За добрыя паводзіны тэрмін быў зменены — Міхаіл адседзеў за кратамі пяць гадоў, яшчэ больш за паўтара года адбыў на выпраўленчых працах — адлічваў дзяржаве чвэрць заробку.

### Жонка дачакалася і памерла

Пра час адседкі Гладкі ўзгадвае няшмат: «Быў крэпкім мужыком. Не такім, як гэтыя, што пальцы круцяць... Хадзіў на працу, закончыў тры вучылішчы».

Ён пачынаў адбываць свой тэрмін ва ўмовах строгага рэжыму ў Івацэвічах, пасля апынуўся на ўзмоцненым у Бабруйску.

Пакуль Міхаіл сядзеў у турме, ягоная жонка жыла ў Марыі. У жонкі былі праблемы з сэрцам, і здароўе не вытрымала ўжо ў 35 гадоў. Інфаркт, пасля інсульт... Праз тры месяцы пасля вызвалення мужа яна памерла. Ён прадаў свой вялікі дом і пераехаў да суседкі: «Што мне было рабіць аднаму на тых ста метрах?»

«Калі ягоная жонка памірала, яна ў мяне папрасіла: не кідай майго мужа. Маўляў, я за яго баюся, што ён можа засіліцца. Я яго і не кідаю. Ды мы і сябравалі заўсёды», — узгадвае Марыя.

### Новае жыццё

Яшчэ да арміі Міхаіл закончыў у Мінску вучэльню як спецыяліст па рамонце асвятляльна-сілавых сетак і абсталявання, пасля 20 гадоў працаваў электрыкам на драбільна-сарціровачным заводзе ў Заслаўі. Судзімасцяў да 2003-га ў яго не было.

Як выйшаў з турмы, вярнуўся да працы.

Праз два гады пасля вызвалення Міхаілу паведамілі пра ягоную невінаватасць у судзе над Эдуардам Лыкавым. На працэсе той сядзеў з апушчанай галавой, амаль нічога не прамаўляў.

— 26 лістапада суд вынес Лыкаву смяротны прысуд, — расказвае Міхаілу, які не паехаў на апошняе пасяджэнне.

— Як смяротны? У Беларусі ж яго няма, — здзіўлена перапытвае ён.

Міхаіл быў пераканаены, што Лыкаву прысудзілі пажыццёвае зняволенне.

Паводле заканадаўства, Гладкі мае права атрымаць кампенсацыю — за маральныя і фізічныя пакуты, за згублены за час зняволення заробак, а таксама аднаўленне працоўнага стажу. Яго дырэктар падлічыў: аднаго толькі заробку за час адседкі набегла больш за 310 мільёнаў рублёў.

### Як атрымаць кампенсацыю

Па словах юрыста Паўла Сапелкі, агульнага правіла, колькі павінна скласці маральная кампенсацыя, няма — суд падыходзіць да вырашэння гэтага пытання індывідуальна. Каб да адказнасці прыцягнулі супрацоўнікаў праваахоўных органаў ці суда, па чыёй віне Міхаіл Гладкі апынуўся за кратамі, ён сам павінен звярнуцца ў Следчы камітэт.

Павел Сапелка адзначае, што далёка не кожны незаконна асуджаны грамадзянін у Беларусі даходзіць да суда, каб адстаяць парушаныя правы. «Хтосьці баіцца, што з-за гэтага можа быць перагледжана справа не на яго карысць, а хтосьці проста не гатовы яшчэ раз прайсці хай сабе і грамадзянскі, але судовы працэс», — кажа ён.

Ці будзе Міхаіл Гладкі звяртацца ў суд наконт кампенсацыі?

— Абавязкова. Бо гэта было несправядлівае пакаранне, — адказвае той.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч, Кіршы—Мінск**

**Пяць забойстваў Лыкава**

**2002** — у вёсцы Кіршы Мінскага раёна забіў нажом маці сукамерніка, а пасля засек яго сякерай.

**2004** — у вёсцы Новая Гожа Гродзенскага раёна забіў сякерай знаёмага сваёй сужыцельніцы, а ягоны труп закапаў у лесе.

**2011** — у вёсцы Новая Гожа Гродзенскага раёна забіў сужыцельніцу металічнай гантэллю, а пасля задушыў яе.

**2011** — у пасёлку Ждановічы Мінскага раёна забіў металічнай трубкай свайго сабутэльніка.

Усе забойствы здзейсненыя ў стане алкагольнага ап'янення.

Апроч таго, Лыкаў быў неаднаразова асуджаны за крадзеж, рабаўніцтва, хуліганства, нясплату аліментаў. Між першым забойствам і канчатковым узяццем пад варту прайшло 9 гадоў, за гэты час ён неаднаразова адбываў пакаранне за кратамі.

# Калі ты стаў непатрэбны роднаму прадпрыемству

Жыхар Гомеля **пакалечыўся** на заводзе, але трэці год не можа гэтага **даказаць**.

Два з паловай года пасля трагедыі, якая здарылася з жыхаром Гомеля Аляксандрам Клімавым, ён ходзіць па інстанцыях, каб даказаць, здавалася б, відавочнае: ён атрымаў цяжкую траўму на вытворчасці, у працоўны час. Аддаўшы 32 гады жыцця роднаму прадпрыемству — ААТ «Гомельскі хімічны завод», узамен чалавек атрымаў звальненне і «Акт аб невытворчай траўме».

Працаваў Аляксандр Клімаў апаратчыкам абпалу шостага разраду, на завод прыйшоў у 1978 годзе, так і застаўся тут да 2012 года. Пасля працяглага бальнічнага быў звольнены з фармулёўкай «у сувязі з неадпаведнасцю работніка працы, што выконваецца, з прычыны стану здароўя, які перашкаджае працы».

Клімаў даказвае, што інваліднасць трэцяй групы ён «нажыў» на родным заводзе. А прадпрыемства катэгарычна адмаўляе: маўляў, траўма была невытворчая.

Вясной 2011 года, знаходзячыся на працоўным месцы ў працоўны час, Аляксандр Клімаў зайшоў на эстакаду разгрузкі вадкай серы, страціў прытомнасць і ўпаў. Па словах былога працаўніка завода, перад падзеннем ён адчуў пах серавадароду, затым — удушша, паспрабаваў сысці з зоны загазаванасці і апрытомнеў ўжо ўнізе, каля лесвіцы.

Атрымаў спалучаную траўму: пераломы рэбраў, пашкоджанне ўлоннага сучлянення, траўматычны сімфізіт. Затым больш за 200 дзён быў на бальнічным.

Пасля падзення апаратчыка даставілі ў медпункт хімзавода і толькі праз дзве з паловай гадзіны яго нарэшце адвезлі ў Гомельскую абласную туберкулёзную бальніцу (менавіта туды вязуць з пашкоджаннямі лёгкіх, зламанымі рэбрамі).

Туберкулёзная бальніца ў заключэнні напісала, што «дадзеныя траўмы не адносяцца да катэгорыі цяжкіх». Такое заключэнне дактароў дазволіла кіраўніцтву хімзавода па факце няшчаснага выпадку на вытворчасці скласці акт «аб невытворчым няшчасным выпадку». Заўважым, што каб траўмы былі прызнаныя цяжкімі, то з абставінамі іх атрымання разбіралася б не кіраўніцтва завода, а іншыя кампетэнтныя органы.

На хімзаводзе ў акце напісалі, што траўму апаратчык атрымаў «з прычыны хваравітага стану». Падставай для такога заключэння (вынесенага лячэбна-прафілактычным участкам) паслужыў той факт, што Аляксандр Клімаў раней звяртаўся ў кардыялагічны дыспансер з высокім ціскам. Лячэбны ўчастак робіць выснову, што чалавек мог страціць прытомнасць з-за ціску, а не атручвання газам.

«Я ў тым кардыялагічным дыспансеры нават на ўліку не стаяў! Як можна тады рабіць выснову, што я мог страціць прытомнасць ад ціску? Тым больш, мая праца на хімзаводзе была звязана з асаблівымі ўмовамі працы, я штогод праходзіў медыцынскае абследаванне. Калі б у мяне было нейкае парушэнне здароўя, то мяне не павінны былі б допускаць да працы! А мяне яшчэ абвінавацілі, што, маўляў, я схаваў сваё захворванне!» — расхвалявана кажа Клімаў.

Ён атрымаў інваліднасць 3 групы, а роднае прадпрыемства адмовілася ўзяць яго на працу ну хоць вахцёрам, хоць кім. «Звяртаўся я нават працаўладкавання ў Камітэт па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, а там кажуць: вы ж працавалі на хімзаводзе 30 гадоў, туды і звяртайцеся. Мяне спісалі проста, выкінулі на вуліцу», — з горыччу кажа мужчына.

Ён ваяваў супраць «акта аб невытворчай траўме» на ўсіх узроўнях.

Летам 2013 года Дэпартамент інспекцыі аховы працы нарэшце вынес пастанову, што акт, складзены аб невытворчай траўме, не мае сілы. Дэпартамент даў даручэнне хімзаводу правесці новае расследаванне выпадку. ААТ «Гомельскі хімічны завод» паслухаўся Дэпартамент аховы працы і склаў новы акт. Але там ізноў напісаў: «траўма — невытворчая».

Цяпер у судзе Навабеліцкага раёна Гомеля пачаліся слуханні па скарзе Аляксандра Клімава. Адказчыкам выступае Гомельская абласная туберкулёзная бальніца — «людзі ў белых халатах», якія прызналі, што траўма — няцяжкая. Прадстаўляе інтарэсы заяўніка прававы інспектар прафсаюза РЭП па Гомельскай вобласці Леанід Судаленка.

«Стратэгічнай мэтай мы паставілі прызнаць выпадак, які адбыўся, вытворчай траўмай, што дазволіць Клімаву атрымліваць штомесяц страхавыя выплаты», — пракаментаваў Судаленка.

«Ужо прайшло адно пасяджэнне, бальніца не жадае прызнаваць цяжкую ступень траўмы. Мы будзем дамагацца правядзення судова-медыцынскай экспертызы, бо траўма, а менавіта разрыў улоннага сучлянення тазасцёгнавай косткі, а гэты дыягназ паставіла нават абласное ўпраўленне аховы здароўя, дае падставы аднесці траўму да цяжкай», — дадае прававы інспектар.

Калі Клімаў дакажа ў судзе, што траўма цяжкая, тады і будзе акт формы Н-1 аб няшчасным выпадку на вытворчасці.

«Мала хто змагаецца за сваю працу так настойліва, як Клімаў», — падкрэсліў Леанід Судаленка.

Аляксандр Клімаў спадзяецца недзе ўсе-такі знайсці справядлівасць у гэтым свеце, у гэтай краіне, у гэтым судзе...

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

## Сціісла

**Данькову — 8 гадоў з канфіскацыяй**

Уладальнік Dankoff Club Юрый Данькоў асуджаны на восем гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Яму інкрымінавалі ўхіленне ад сплаты падаткаў, арганізацыю прытону, падробку дакументаў, публічную дэманстрацыю порна і іншыя парушэнні заканадаўства.

**Асудзілі за згвалтаванне беларускай дзяўчынкі**

Італьянец згвалціў сямігадовую дзяўчынку, якая прыехала з чарнобыльскай зоны з групай дзяцей для аздараўлення. Педафіл зняў згвалтаванне на відэакамеру. А злавілі яго на тым, што ў гандлёвым цэнтры схаваў камерай здымаў інтымныя часткі цела непаўналетніх.

**Папрасіў расстраляць**

П'яны грамадзянін Казахстана на «Фальксвагене» трапіў у аварыю пад Гродам — не раз'ехаўся з «Фіятам». Кіроўца спачатку быў настолькі агрэсіўным, што людзі яго звязалі. Затое пазней у будынку ДАІ ён напісаў заяву з просьбай прымяніць да яго найвышэйшую меру пакарання. Прычынай сваіх неадэкватных паводзін ён назваў складаныя адносіны з каханай.

**Мужчына памёр на магіле жонкі**

Труп 73-гадовага мужчыны без бачных прыкмет гвалтоўнай смерці знайшлі на цэнтральнай алеі гарадскіх могілак у Светлагорску. Памерлы ляжаў каля магілы сваёй жонкі.

**Дырэктарку затрымалі за праслушку падначаленых**

Заведзена крымінальная справа супраць дырэктаркі фабрыкі «Слодыч» Таццяны Селіх. Яе затрымалі падчас расследавання справы па вырабе сродкаў для «негалоснага атрымання інфармацыі». Выявілася, што начальніца загадала ўсталяваць на «Слодычы» за кошт прадпрыемства падслухоўваючае абсталяванне. Селіх пагражае да дзесяці гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

**ЯМ**

# «Залатая моладзь» пратараніла машыну ДАІ на хуткасці 200 км/г

Аўтамабіль інспектараў **узляцеў у паветра** і перакуліўся.

Здарэнне адбылося ўначы 20 снежня каля вёскі Новая Стража на Слонімшчыне. Патрульная машына рухалася ў бок райцэнтра, калі на вялізнай хуткасці яе пратараніла «Аўдзі А8». Ад удару ззаду патрульны аўтамабіль адарвала ад зямлі, ён праляцеў некалькі метраў і апынуўся на даху ў кювеце. На шчасце, супрацоўнікі ДАІ сур'ёзна не пацярпелі. Іх заціснула ў салоне, выбрацца ім дапамаглі кіроўцы, якія сталі сведкамі здарэння.

«Аўдзюха» ж з'ехала ў бок Слоніма. Усіх супрацоўнікаў ДАІ рэгіёна паднялі па трывозе. А 5-й гадзіне раніцы віноўніка аварыі і пасажыра, які быў разам з ім, знайшлі ў прыдарожнай кавярні. Хлопцы распівалі алкагольныя напоі.

Прадстаўнікі «залатой моладзі» Слоніма, работнікі аднаго з самых паспяховых мясцовых прадпрыемстваў, спачатку рабілі выгляд, што не разумеюць, чаму іх затрымалі. Але пазней яны прызналі сваю віну, раскаяліся і паведамілі, што на момант аварыі ехалі з хуткасцю 200 км/г.

**Інф. Gaigrodno.by**



# Загінуў 19-гадовы студэнт: паслізнуўся і стукнуўся скроняй



Не стала маладога **паэта Сяргея Маціна**.

«Ён выбягаў кудысьці з дома, паслізнуўся і стукнуўся скроняй — адразу памёр», — паведаміла сяброўка Сяргея Кацярына.

Хлопец быў творчым: пісаў вершы і прозу на некалькіх мовах па-беларуску, па-ўкраінску, па-расійску. Цяпер у выдавецтве «Галіяфы» будзе рыхтавацца кніга Маціна.

Хлопец займаўся таксама спартовым арыентаваннем.

Сяргей нарадзіўся ў Мінску. Выпускнік ліцэя БДУ (2011). Навучаўся на хімічным факультэце БДУ — хацеў быць выкладчыкам.

**Сяргей Макарэвіч**

### Размалёўваць сусвет!

Не саромецца быць сабой,
Крочыць упадабаным шляхам,
З лёсам не пачынаць двубой,
Кіравацца вясновым пахам,
Не зважаць на сабачы брэх,
На світанку ўсміхацца сонцу,
У завулках ды паміж стрэх
Размалёўваць Сусвет бясконца!

**17 сакавіка 2013, Мінск**

### Час вынішчаць таямніцы!

Знікнуць з жыцця
з-за такой драбязы —
Глупства наўпрост, і кропка!
Сэрца казыча нямы прызыў,
Трушчыцца лёд крохкі…
Выратуй тое, што змог утрымаць,
Як у пустэльні — крыніцу.
Годзе раздзелена існаваць —
Час вынішчаць таямніцы!

**9 снежня 2013, Мінск**
**Сяргей Мацін**

# Найлепшыя кнігі 2013

Найлепшай кнігай, на думку экспертаў «НН», стаў «**Вушацкі словазбор** Рыгора Барадуліна», які ўклала Наталля Давыдзенка.

«Гэта кніга пра мову, вакол мовы і з мовы сатканая», — так ахарактарызываў яе Уладзімір Някляеў.

Гэта, фактычна, дыялектычны слоўнік з радзімы Рыгора Барадуліна — Ушаччыны. У кнігу ўключаны словы, прыказкі, пажаданні, якія не фіксуюць ці не заўжды фіксуюць навуковыя слоўнікі. Жывая мова канрэтнага рэгіёна часам далёкая ад літаратурнай.

Чаму гэта важна? Барадулін фіксуе мову такой, якой яна была ў дамедыйную эпоху. У тым выглядзе, у якім яна існавала тысячу гадоў. Мову, чыстую ад уплываў і запазычанняў апошняга стагоддзя.

Ёсць жа слоўнік мовы Янкі Купалы! Вось дачакаўся фактычна такога ж выдання і Народны паэт Беларусі. Рыгор Барадулін запісваў мову сваёй радзімы 60 гадоў.

Дарэчы, трэцюю пазіцыю ў дзясятцы кніг-пераможцаў займае таксама кніга Барадуліна — выбраныя вершы. Гэтае выданне ўнікальнае тым, што ў ім няма ніводнага друкаванага слова: паэт напісаў яе ад рукі.

Эксперты назвалі амаль восем дзясяткаў кніг. Сярод іх пераважае мастацкая літаратура.

Сярод празаічных кніг найчасцей называлі трох аўтараў — Людмілу Рублеўскую, Барыса Пятровіча і Віктара Марціновіча. Год, на жаль, быў бедны на выданне кніг прозы, таму можна меркаваць, што гэтыя аўтары будуць як мінімум у шорт-лісце намінантаў на прэмію Гедройца.

Раман Віктара Марціновіча «Сфагнум» — адзіная ў дзясятцы перакладная кніга (з расійскай). «Сфагнум», у якім жорстка паказанае жыццё «пацаноў» з мінскага мікрараёна, выклікаў гарачае абмеркаванне. Палемікі ішлі сёлета і вакол кнігі «Час сэканд-хэнд» Святланы Алексіевіч. А сама аўтарка мела шанец атрымаць Нобеля па літаратуры. Але ў рэйтынгі экспертаў «Час сэканд-хэнд» не трапіў. Магчыма — праз адсутнасць беларускага кантэксту.

У рэйтынг трапілі кнігі Віктара Казько і Уладзіміра Караткевіча, пісьменнікаў пакалення Барадуліна, якіх праходзяць у школьнай праграме. Сярод маладзейшых назвалі Адама Глобуса, Уладзіміра Някляева, Андрэя Хадановіча.

Дарэчы, леташняя кніга года па версіі «НН» («Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя» Уладзіміра Арлова і Змітра Герасімовіча) у 2013 вытрымала чарговае перавыданне. І заняла высокія пазіцыі ў новым рэйтынгу. Гэтае далёка не таннае выданне становіцца хітом продажаў у кнігарнях другі год запар. Добры паказчык якасці — галасаванне рублём.

Эксперты згадалі амаль тры дзясяткі выдавецтваў (пераважная большасць — прыватныя), але сярод іх толькі два знаходзяцца па-за сталіцай і яшчэ чатыры — у іншых краінах, адно — займаецца электроннымі кнігамі.

Лідарам па колькасці згаданых кніг сёлета стала дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура». Сярод недзяржаўных — «Кнігазбор» і «Логвінаў» (апошняе, між іншым, сёлета пазбавілі ліцэнзіі).

Выніковы рэйтынг падаецца паводле падліку балаў па дзесяцібальнай шкале. За кожнае першае месца ў спісе налічваецца 10 балаў, за другое — 9 і г.д. У выпадках кнігарняў — па выніках продажаў.

**Падрыхтавалі Сяргей Макарэвіч, Мікіта Капкоў**

**Дзясятка найлепшых кніг 2013 года выглядае так:**

1. Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна. — Мінск: Кнігазбор — 32 балы.
2. Зоська Верас. Я помню ўсё. Успаміны, лісты. — Уроцлаў: Kolegium Europy Wschodniej — 25.
3. Рыгор Барадулін. Лепей. Рукапісы 1952-2013. — Мінск: Выдавец Ігар Віркоўскі — 24.
4. Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя. — Браціслава: Kalligram — 23.
5. Віктар Марціновіч. Сфагнум. Раман / Пераклад з расійскай Віталя Рыжкова. — Мінск: Кнігазбор — 20.

6-7. Вялікі гістарычны атлас Беларусі у 4-х тамах. Т. 2. — Мінск: Белкартаграфія.
Вольга Лабачэўская, Зінаіда Зіміна. Белорусский народный костюм: крой, вышивка и декоративные швы. — Мінск: Беларуская навука — па 19.
8-10. Людміла Рублеўская. Ночы на Плябанскіх млынах. Раман, аповесці, апавяданні. — Мінск: Мастацкая літаратура.
Глеб Лабадзенка. Дзіцячая заМова. — Мінск: Паперус.
Генадзь Кісялёў. Смак беларушчыны. — Мінск: Лімарыус —па 16.

**Найлепшыя кнігі папярэдніх гадоў:**

2012 — Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя.
2011 — Адам Бабарэка. Збор твораў у 2 тамах.
2010 — Уладзімір Караткевіч. Ладдзя Роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне.
2009 — Алег Латышонак. Нацыянальнасць — Беларус.
2008 — Галасы з-за небакраю: анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах XX ст. Укл. Міхась Скобла.

**Андрэй Хадановіч, паэт, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра:**
1. Браты Грым. Казкі / Пераклад з нямецкай Альгерда Бахарэвіча. — Мінск: Логвінаў.
2. Юрась Бушлякоў. Жывая мова. — Радыё «Свабода».
3-4. Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна.
Рыгор Барадулін. Лепей. Рукапісы 1952-2013.
5-6. Багуміл Грабал. Я абслугоўваў ангельскага караля / Пераклад з чэшскай Марыі Мартысевіч. — Мінск: Логвінаў.
Эган Бонды. Запрашэнне на вячэру / Пераклад з чэшскай Макса Шчура. — Мінск: Логвінаў.
7-8. Ірэна Доўскава. Моцны Жбуць / Пераклад з чэшскай Веранікі Бяльковіч. — Мінск: Логвінаў.
Міхал Віваг. Цудоўныя гады сабаку пад хвост / Пераклад з чэшскай Сяргея Сматрычэнкі. — Мінск: Логвінаў.
9. Злачынства, сэр! Зборнік дэтэктыўнага апавядання / Укл. Ганна Янкута. — Мінск: Кнігазбор.
Вусцішны пакой. Зборнік містычнага апавядання / Укл. Ганна Янкута. — Мінск: Кнігазбор.
10. Барыс Пятровіч. Спачатку была цемра. Аповесць. — Мінск: Кнігазбор.
Барыс Пятровіч. Спакушэнне. Апавяданні розных гадоў. — Мінск: Кнігазбор.
Блог Усяслава Чарадзея. — Мінск: Логвінаў.
Віялета Пачкоўская. Арэхападзенне. — Мінск: Логвінаў.
Кірыла Анохін. Асцярожна, дрэвы зачыняюцца. — Мінск: Кнігазбор.
Маргарыта Аляшкевіч. Мадэль для забойства. Электронная кніга. — Bybooks.

**Міхась Казлоўскі, краязнавец, рэдактар альманаха «Куфэрак Віленшчыны»:**
1. Людміла Рублеўская. Ночы на Плябанскіх млынах. Раман, аповесці, апавяданні. — Мінск: Мастацкая літаратура.
2. Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч. Рада БНР (1947—1970). Падзеі. Дакументы. Асобы. — Мінск: Кнігазбор.
3. Яўхім Кіпель. Эпізоды. — Мінск: Лімарыус.
4. Зоська Верас. Я помню ўсё.
5. Іван Траццяк. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі: манаграфія. — Гродна: ГрДУ.
6. Людміла Рублеўская. Рифма ценою в жизнь. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда».
7. Людміла Рублеўская. Рыцари и дамы Беларуси. Гістарычныя эсэ. — Мінск: Мастацкая літаратура.
8. Рычард Бялячыц. Помню, што жыву: вершы, паэма. — Мінск: Кнігазбор.
9. Казімір Камейша. Ад Кромані да Свіцязі: лірычныя запісы, мініяцюры, эсэ. — Мінск: Мастацкая літаратура.
10. Злачынства, сэр!

**Людміла Рублеўская, пісьменніца, літаглядальнік газеты «СБ. Беларусь Сегодня»:**
1. Віктар Шніп. Сабачыя гісторыі. — Мінск.
2. Барыс Пятровіч. Спачатку была цемра.
3. Віктар Казько. Бунт незапатрабаванага праху. — Мінск: Мастацкая літаратура.
4. Пятро Васючэнка. Дванаццаць подзвігаў Геракла. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда».
5. Алена Брава. Дараванне=Прощение=Vergebung. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда».
6. Сяргей Верацiла. Разбітае сэрца Вітаўта. — Мінск: Мастацкая літаратура.
7. Юры Гумянюк. Назаві мяне геніем... — Гарадзенская бібліятэка.
8. Зоська Верас. Я помню ўсё.
9. Вусцішны пакой.
10. Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей : зборнік памяці Віталя Скалабана / Укл. Анатоля Сідарэвіча і інш. — Мінск: Лімарыус.

**Лявон Баршчэўскі, перакладчык:**
1. Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна.
2. Андрэй Хадановіч. Разам з пылам: калекцыя перакладаў. — Мінск: Кнігазбор.
3. Сяргей Навумчык. Дзевяноста першы. — Радыё «Свабода».
4. Бэўвульф / Пераклад са стараанглійскай Антона Францішкі Брыля. — Мінск: Зміцер Колас.
5. Віктар Марціновіч. Сфагнум.
6. Анатоль Лябедзька. 108 дзён і начэй у засценках КДБ. — Радыё «Свабода».
7. Барыс Пятровіч. Спачатку была цемра.
8. Аляксандр Лукашук. Зкімбы-зымбы. — Мінск: Кнігазбор.
9. Сяргей Дубавец. Errata. — Мінск: Логвінаў.
10. Вусцішны пакой.




**Міхась Скобла, паэт, даследчык літаратуры:**
1. Генадзь Кісялёў. Смак беларушчыны.
2. Зоська Верас. Я помню ўсё.
3. Рыгор Барадулін. Лепей.
4. Уладзімір Някляеў. Знакі прыпынку. — Мінск: Лімарыус.
5. Аляксандр Лукашук. Зкімбы-зымбы.
6. Барыс Пятровіч. Спакушэнне.
7. Андрэй Хадановіч. Разам з пылам: калекцыя перакладаў.
8. Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч. Рада БНР (1947—1970).
9. Усевалад Сцебурака. Бег па самаадчуванні: вершы, зацемкі. — Мінск: Галіяфы
10. Фердынанд Чаплінскі. Маскоўская ўлада на Літве. 1863—1869 / Пераклад з польскай. — Мінск: Выдавец Віктар Хурсік.

**Алег Дзярновіч, гісторык:**
1. Баркалабаўскі летапіс / Рэдактар А. Саламевіч. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя.
2. Вялікі гістарычны атлас Беларусі у 4—х тамах. Т. 2. — Мінск: Белкартаграфія.
3. Сяргей Гваздзёў. Крэскі да партрэтаў мастакоў з Заходняй Беларусі. — Мінск: Галіяфы.
4. Бэўвульф.
5. Зоська Верас. Я помню ўсё.
6. Генадзь Кісялёў. Смак беларушчыны.
7. Палітычная навука. Анталогія класічных тэкстаў. / Пераклад з нямецкай, англійскай, французскай. — Мінск, Вільня: Палітычная сфера.
8. Вінцэсь Мудроў. Багун. — Полацкае ляда.
9. Юры Гумянюк. Назаві мяне геніем...
10. Валянціна Белявіна. Беларусь в годы Первой мировой войны. — Мінск: Беларусь.

**Валерый Пазднякоў, гісторык:**
1. Вялікі гістарычны атлас Беларусі у 4—х тамах. Т. 2.
2. Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі / Скл. І. У. Будзько і інш.; Т. 1—2. — Мінск : Беларуская навука.
3. Алена Фірыновіч. Паўстанне 1863—1864 г.: вядомыя і невядомыя крыніцы беларускіх архіваў. — Мінск : Беларуская навука.
4. Рэлігійнае пісьменства кірылічнай традыцыі XI—XV стст. / Укл. Любоў Ляўшун. — Мінск : Беларуская навука.
5. Белорусы Москвы. XVII век. / Укл. Вольга Бажэнава, Таццяна Бялова. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя.
6. Баркалабаўскі летапіс.
7. Анатоль Федарук. Старинные усадьбы Беларуси : Кореличский район. — Минск : Беларусь.
8. Віктар Корбут. Минск. Лучший вид на этот город. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда».
9. Валерый Жук. Живопись Беларуси на рубеже веков: потери и обретения. — Мінск: Беларуская навука.
10. Алесь Белы. Хроніка Белай Русі. Імагалогія Беларусі XII—XVIII стст. — Смаленск: Інбелкульт.

**Кнігарня «Логвінаў», Мінск:**
1. Віктар Марціновіч. Сфагнум.
2. Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь.
3. Адам Глобус. Казкі для дарослых. — Мінск: Логвінаў.
4. Андрэй Хадановіч. Дэжа-вю: перавыбранае. — Мінск: Логвінаў.
5. Глеб Лабадзенка. Дзіцячая заМова.
6. Аляксандр Краўцэвіч. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага.
7. Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна.
8. Багуміл Грабал. Я абслугоўваў ангельскага караля.
9. Алесь Белы. Хроніка Белай Русі.
10. Пётра Рудкоўскі. Вялікі выбух у малой Галілеі. — Мінск: Логвінаў.

**Інтэрнэт-кнігарня Prastora.by:**
1. Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна.
2. Рыгор Барадулін. Лепей.
3. Глеб Лабадзенка. Дзіцячая заМова.
4. Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь.
5. Людміла Рублеўская. Ночы на Плябанскіх млынах.
6. Міхась Чарняўскі. «Ня бойцеся ахвяраў і пакут!» — Мінск: Выдавец Аляксей Вараксін.
7. Віктар Марціновіч. Сфагнум.
8. Барыс Пятровіч. Спакушэнне.
9. Алесь Белы. Хроніка Белай Русі.
10. Аксана Спрынчан. Таташ Яраш, мамана Аксана і дачэта Альжбэта. — Мінск: Мастацкая літаратура.

**«Акадэмкніга», Мінск:**
1. Аляксандр Краўцэвіч. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага.
2. Вольга Лабачэўская, Зінаіда Зіміна. Белорусский народный костюм: крой, вышивка и декоративные швы.
3. Вадзім Дзеружынскі. Мифы о Беларуси. — Мінск: Харвест.
4. Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь.
5. Анатоль Тарас. Краткий курс истории Беларуси IX—XXI веков. — Мінск: Харвест.
6. Дзяніс Раманюк. Беларусь. Минск. Альбом. — Мінск: Выдавец Раманюк Д.М.
7. Аляксандр Аляксееў, Алег Лукашэвіч. Скарбы Беларусі. Альбом. — Мінск: Чатыры чвэрці.
8. Вінцэнта Завадская. Літоўская кухарка. Першая беларуская кулінарная кніга. — Мінск: Харвест.
9. Глеб Лабадзенка. Дзіцячая заМова.
10. Генадзь Кісялёў. Смак беларушчыны.

**Кнігарня «Эўрыка», Мінск:**
1. Вольга Лабачэўская, Зінаіда Зіміна. Белорусский народный костюм: крой, вышивка и декоративные швы.
2. Мінск. Сэрца Беларусі = Минск. Сердце Беларуси = Minsk. The heart of Belarus : фотоальбом. — Мінск: Беларусь.
3. Віктар Корбут. Минск. Лучший вид на этот город.
4. Юрый Татарынаў. Роковая страсть короля Миндовга. — Мінск: Рэгістр.
5. Анатоль Тарас. Краткий курс истории Беларуси IX—XXI веков.
6. Іван Лапо. Люблинская уния 1569 г. — Мінск: Харвест.
7. Вадзім Дзеружынскі. Мифы о Беларуси.
8. Уладзімір Караткевіч. Збор твораў. Т. 4. — Мінск: Мастацкая літаратура.
9. Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі ў 6 тамах. Т. 3. — Мінск: Беларуская навука.
10. Мікалай Прыгодзіч, Уладзіслаў Завальнюк, Валянцін Раманцэвіч. Энцыклапедычны слоўнік рэлігійнай лексікі беларускай мовы. — Мінск: Выдавецтва Граўцова.

Студэнт 3 курса БДУ Максім сцвярджае, што яго і ягоных сябраў **падманулі ў будаўнічым атрадзе** БРСМ. Ці так гэта? Разбіраўся карэспандэнт.

# «Працаваў задарма, а інтэрнат не далі!»

«Я сутыкнуўся з абуральным выпадкам несправядлівасці, — наракае Максім. — У летні перыяд пайшоў працаваць у будатрад БРСМ, каб засяліцца ў студэнцкі інтэрнат.

За месца ў інтэрнаце на год неабходна было два месяцы адрабіць на сацыяльным аб'екце. Я працаваў у новым інтэрнаце №4 БДУ.

Атрыманне месца ў інтэрнаце такім чынам практыкуецца ўжо не першы год. Аднак сёлета камітэт БРСМ БДУ свае абавязальніцтвы ў адносінах да мяне і маіх таварышаў — каля 20 чалавек — не выканаў, хоць з нашага боку свае абавязацельствы перад будтрэстам і камітэтам БРСМ БДУ паводле заключанай дамовы падраду мы выканалі».

Насамрэч, у 2013–2014 навучальным годзе спіс крытэраў на засяленне студэнтаў у інтэрнаты значна пашырыўся разам з уводзіненнем у эксплуатацыю студэнцкага гарадка на Паўднёвым Захадзе. Згодна з ім, у інтэрнатах БДУ выдзелілі да 40 месцаў для студэнтаў, што ў чэрвені-жніўні працавалі на «грамадска значных аб'ектах».

Пасля адпрацоўкі на будоўлі чаканую жылплошчу Максім не атрымаў. «За ліпень я атрымаў 800 тысячаў, у жніўні — 2,4 мільёна. Людзі, якія працавалі не ў спецыялізаваных атрадах, як наш, атрымалі нашмат больш», — абураецца Максім.

### Але ёсць адно «але»

Карэспандэнт «Нашай Нівы» звязаўся з сакратаром БРСМ БДУ Яўгенам Харукам. Ён пацвердзіў, што ведае пра праблему, з якою сутыкнуліся хлопцы, але зрабіць нічога не можа: у Максіма была акадэмічная запазычанасць.

Максім прызнае, што на момант пачатку працы ў яго былі «хвасты»: нездадзены экзамен і некалькі залікаў.

«Чыноўнікі з БРСМ запэўнілі, што цягам двух тыдняў пасля ліквідацыі запазычанасці атрымаю жыллё. На працягу першых двух тыдняў верасня мае запазычанасці былі ліквідаваныя, але маё месца мне не далі. Сказалі, што месца атрымаю 1 лістапада, калі адкрыецца інтэрнат №4. Нас зноў не засялілі. Пасля пачатку засялення інтэрната прайшло каля тыдня, і мы звярнуліся ў сектар засялення студэнтаў студгарадка БДУ. Нам паведамілі, што дамовы засялення на нас не аформлены.

Выходзіць, я два летнія месяцы адпрацаваў амаль задарма, а ў выніку здымаю кватэру і плачу вялікія грошы», — перажывае Максім.

Харук у сваю чаргу патлумачыў, што БРСМ свае абавязальніцтвы цалкам выканаў.

«Мы перадалі сваю частку дакументацыі ў аддзел па засяленні студэнтаў. Аднак засяленне студэнтаў з акадэмічнай запазычанасцю не дазваляецца ўнутранымі правіламі ўніверсітэта. Калі ў студэнта была запазычанасць, засялялі наступных па чарзе. Відаць, на дадзены момант усе месцы ў інтэрнаце занятыя, іх усё ж абмежаваная колькасць», — сказаў ён.

Насамрэч, у пераліку крытэраў прадастаўлення жылога памяшкання навучэнцам у інтэрнатах БДУ на 2013–2014 навучальны год акрамя пункта 2.5.5, якія дае Максіму і яго калегам права на першачарговае засяленне ў інтэрнат, ёсць і пункт 4.1: «навучэнцы (у тым ліку ўказаныя ў п.2 і п.3 дадзенага пераліку), якія не ліквідавалі без паважных прычын акадэмічную запазычанасць да 02.07.2013 года» маюць права на прадастаўленне інтэрната ў апошнюю чаргу.

Дзеянне п.4 пераліку не распаўсюджваецца толькі на студэнтаў, якім месца ў інтэрнаце выдзяляюцца па-за чаргой: дзецям-сіротам, інвалідам, студэнтам-кантрактнікам, якія аднавіліся ў ВНУ пасля вайсковай службы. У службе засялення студгарадка БДУ пацвердзілі, што студэнтаў з акадэмічнымі запазычанасцямі не селяць.

Таму, Максіме, на будучыню: не дазваляйце хвастам расці.

**Разбіраўся ў праблеме Кірыла Хілько**

## Падатак на аўто: розгалас

**Чаму мы павінны плаціць двойчы?**

Мы плацім падаткі, калі купляем паліва, яны туды ўжо ўключаны, навошта нам плаціць двойчы яшчэ і падатак на аўтамабіль?

...Яны зачыняюць нашы школы, забіваюць нашу культуру. Яны не могуць нават адрамантаваць дарогі нармальна. За што мы плацім: за парады, за ідэолагаў?

**Кіроўца**

**«Атрымліваю асалоду нават ад гуку»**

Гляджу анлайн-трансляцыю з акцыі пратэсту аўтамабілістаў у Мінску. Відэа на камп'ютары чамусьці не працуе. Але атрымліваю асалоду нават ад гуку )). Малайцы людзі, што маюць смеласць выказаць сваё меркаванне!

**Саладух**

**Як па-Вашаму, ці акцыя «Стоп-падатак» удалася?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 655 | 35% |
| Не | 534 | 28% |
| у Мінску так, у рэгіёнах яе не было | 442 | 23% |
| якая розніца? | 255 | 14% |

Усяго прагаласавала 1896 чалавек.

## Водгукі

**«Бакіеў будуецца побач з новым катэджам Пракаповіча» (№46)**

Хіба яны за свае грошы ўсё гэта пабудавалі? Зямлю набылі за ўласны кошт? І яшчэ пару дзвальвацый зробяць — увогуле амаль бясплатна ўсё атрымаецца. Таму і ся-дзяць на пасадах дзесяцігоддзямі, тасуючыся між сабой.

**Алесь**

## Злоба дня

**Бясплатны газ**

Пайшоў у «саюз» —
бо сам жа ён слабы, —
Забыўся недарэка й недавука:
Бясплатны газ бывае
з выхлапной трубы,
Ну, і вядома ўсім, яшчэ ад «пуку».

**Кнехт**

# На смерць Калашнікава



Цікава, у пекла ці ў рай трапіць гэты чалавек?

**Кар.**

Забівае не зброя, а людзі.

**Ромпер Стомпер**

«Шмайсэр» і АК — канструктыўна вельмі розныя вырабы. Пра супрацу з нямецкімі канструктарамі верна датычна некаторых тэхналагічных момантаў вытворчасці. Але ў цэлым для свайго часу гэта была найлепшая зброя. І як галоўны канструктар Калашнікаў заслугоўвае пашаны.

**Victor**

Знешняе падабенства АК-47 з нямецкім СТГ-44 сапраўды ёсць, і Шмайсер сапраўды прапрацаваў некалькі гадоў ні «Іжмашы» пасля вайны, а па вяртанні ў Германію сказаў, што «падараваў расейцам некалькі ідэяў». Стралковая зброя — не рокет саенс, «запазычанні» амаль непазбежныя, асабліва падчас вайны, калі ваенная тэхніка развіваецца найбольш імкліва. Нешта было пазычана і ў СТГ-44, але ў сваёй сукупнасці АК — арыгінальная распрацоўка, арыентаваная на масавую армію з невысокім узроўнем тэхнічнай культуры.

**Юлій Каралёў**

Усевалад Сцебурака



## Што за навіны маю са стужкі?..

Што за навіны маю са стужкі? —
пара падлеткаў просіць папружкі,
Дзве-тры разбэшчаных дзявулі
на інстаграмах губы надзьмулі.

Ветхі палітык (амаль паралітык)
сочыць, што піша па ім аналітык.
Зноўку губляюцца коткі й сабакі,
шчыльна хварэюць на рак небаракі.

Хутка Каляды, чэргі на межах,
нашы сцягі на майданаўскіх вежах…
Тыдзень-другі — і ў год новы Каня
дзерне галопам стужка мая!

### Наша школа

## Шукаю беларускамоўных бацькоў і настаўнікаў

Паважаная Рэдакцыя «Нашай Нівы»,

Звяртаюся да Вас, каб прадставіць свой праект — сайт з беларускамоўнымі прэзентацыямі для дзетак пра навакольны свет n-compas.jimdo.com.

Хочацца, каб больш беларускамоўных бацькоў і настаўнікаў даведаліся пра яго існаванне, а таксама карысталіся магчымасцю бясплатна спампоўваць інфармацыю для заняткаў і ўрокаў.

Сайт стварыўся першапачаткова для ўнутранага карыстання, але цяпер ужо набралося шмат матэрыялаў, і наведнікаў становіцца ўсё больш. Гэта не дзіва: знайсці беларускамоўныя матэрыялы па біялогіі, геаграфіі і прыродазнаўстве ў сеціве — немагчыма.

Я стварала прэзентацыі для заняткаў з групай беларускамоўных дзяцей. Заняткі праходзяць ужо чацвёрты год, таму назапасілі не толькі мае асабістыя працы, але і цікавыя спасылкі, відэа- і аўдыёматэрыялы.

Больш інфармацыі вы можаце знайсці на старонках сайта.

Увогуле, маю мару пашыраць праект, далучаючы працы беларускамоўных настаўнікаў, педагогаў па іншых прадметах. На дадзены момант ні такога сайта, ні нейкай іншай прасторы няма. Магу дапамагчы настаўнікам стварыць і сваю старонку ў сеціве. Заклікаю яднацца і выходзіць з ценю!

Спадзяюся, што нават невялікае ўзгадванне на сайце НН дапаможа сустрэцца тым, хто шукае, з тымі, хто стварае.

Буду рада хуткаму адказу.

**З павагай, Надзея Гарэцкая, nadzejkacompas@gmail.com**

### Воля і пятля

## З Новым годам, браце. З «юбілеем»!

У кожнай сям'і свае калядныя традыцыі. Звычаі прыходзяць і сыходзяць... І ў нашай сям'і ёсць. Не, я не пра елачкі-ляпмачкі-карагоды. Не пра мачанку з блінамі. Не пра санкі-снежкі-пікнікі. Тут іншае.

Мы бяром трывалы вялікі пакет, кладзем туды мінералку, квас, пакет соку, пустую бутэльку, чатыры-пяць кніг, свежыя газеты — і ідзем у парк. У заснежаны парк, дзе пабітыя пліткі сцяжыны вырульваюць да сціплых дзвярэй у паўкруглай сцяне. Ціснем кнопку званка.

— Что вы хотите?
— Передачу.
— Кому?
— Винярскому.

Вы, магчыма, пасміхнецеся. О, так! У далёкім дзветысячнейкім годзе і мне было смешна: у канцы года суддзя дае 10 сутак і адтэрміноўку, маўляў, пасля святаў адседзіце... Дзе той суддзя... Шчаслівых яму Калядаў.

Сённяшнія суддзі пазбаўленыя сантыментаў. У іх свае арыфмометры. У мяне — свае. Я лічу ад тых вясёлых Калядак 2010 года, што запомніліся Саннікаву, Міхалевічу, Лябедзьку, а асабліва — Статкевічу, Севярынцу, Дашкевічу... (і ўсімусім нам абапал дроту).

1) 21.12.2010 — 15 — Каляды
2) 30.01.2011 — 10
3) 19.05.2011 — 15



4) 06.07.2011 — 15
5) 24.10.2011 — 10
6) 19.12.2011 — 15 — Каляды
7) 30.05.2012 — 15
8) 11.10.2012 — 15 (Масква)
9) 09.05.2013 — 15 (Масква)
10) 19.12.2013 — 15 — Каляды.

Не, не бойцеся, я падсумую. Гэта ДЗЯСЯТЫ арышт за перыяд пасля апошніх выбараў. Гэта ТРЭЦЯЯ Каляды за кратамі. Ён зноў абвясціў галадоўку — неюбілейную, шостую. Калі Макс выйдзе на свабоду, агульны тэрмін складзе 110 дзён. Перадкалядным вечарам 24.12.2013 можна святкаваць 100 дзён — далучайцеся! Кожны можа ўзяць пакет і пайсці ў парк... І не толькі гэта можа.

З «юбілеем», браце! З Новым годам...

**Алена Церашкова, Мінск**

# Шчасце: дастаўка глайдарам

**Юлія Мароз.** Каляднае апавяданне.



Вечар ішоў так, як мае быць. Ззяла рознакаляровымі ліхтарыкамі ялінка, дымілася і парыла газавая пліта, мітусіліся людзі — блізкія і далёкія родзічы, што завіталі на свята. Талеркі ледзь маглі змясціцца на стале, а шум не змаўкаў ні на хвіліну. Плавіліся свечкі, іскрыліся бенгальскія агні, лятала і акупавала падлогу канфеці, грымелі за вокнамі петарды. Дзеці і дарослыя чакалі прыходу Святога Міколы. Першыя — каб атрымаць падарункі, другія — каб нарэшце пакласці малых спаць і пачаць «святкаваць». Таму, калі ў дзверы нарэшце пагрукалі, шуму дадалося: адны ўздыхалі з палёгкай, другія верашчалі ад нецярплівасці.

— Добры вечар! — весела закрычаў на ўсю хату наняты Мікола. — Сядайце бліжэй да каміна і замаўляйце хутчэй, пра што хочаце пачуць казку...

Казка хутка скончылася, бо на большае бацькі грошай не давалі, і малых пагналі на другі паверх спаць.

Кастусь быў старэйшым (цэлых дзесяць год, гэта вам не жартачкі), таму нават меў свой асобны пакой, і калі маці зайшла да яго, каб пацалаваць на ноч, расчаравана адвярнуўся і прабурчаў:

— Што вы мне гэтага мужыка падсоўваеце, я ж ужо дарослы і ведаю, што ён — несапраўдны!.. Хоць бы пакінулі мяне з сабой святкаваць, а то як з малым, далібог!..

Жанчына ціха пасміхнулася, пагладзіла яго па галаве і, ужо выходзячы з пакоя, кінула:

— У наступным годзе, дзядзьКаСтусь, я абяцаю!

«Дзядзькам» яго клікалі таму, што яму вельмі падабалася кніга «Трое ў Прастаквашыне», да таго ж, меў акуляры і быў надзвычай сур'ёзны для сваіх гадоў.

А яшчэ Стусь любіў астраномію. Калі ён глядзеў на зоркі ў тэлескоп (падораны летась на народзіны), яму рабілася лягчэй. Напрыклад, ад таго, што ў навуцы няма глупстваў і недарэчных казак, якія мармыча ў бараду трыццацігадовы «Святы Мікола».

Кастусь стаў да тэлескопа, пачаў падкручваць колца. Сёння марозна, таму ясна, і зоры рассыпаліся як канфеці па падлозе: працягні руку — не тое што дакранешся, а і схопіш, і ў далоні сціснеш.

— Сузор'е Льва, Дзевы... Камета?!

Ліхаманкава круціцца колца. Хутчэй, хутчэй... Кастусь прыляпіўся да акуляра і, не адрываючыся, сачыў. Прайшло ў атмасферу, успыхнула і нясецца да зямлі. Проста на іх дом!..

Такі ўпала ў лесе, за кіламетр адсюль. Кастусь прыслухаўся да гоману ўнізе: тэлевізар раве, талеркі грымяць, дзядзька Пятро рагоча, як заўжды... Не пачуюць.

Кастусь уключыў татаў дыктафон, які той даў яму для запісу назіранняў:

— 22.03. У нашым раёне заўважаная камета. Упала ў лесе. Аб'ект трэба забраць ужо сёння, нельга, каб яго забраў хтосьці іншы. Падысці да адзення трэба сур'ёзна (вось бачыце, і тут сур'ёзна), паколькі ісці прыйдзецца праз поле і за вокнамі... — дзядзьКаСтусь зірнуў на тэрмометр, — 28 градусаў ніжэй за нуль па Цэльсію. Цёплыя шкарпэткі — 2 пары, штаны з падкладкай — адны, швэдры — 2 штукі, майка — адна, каб швэдар не калоўся, шапка з завязкамі, шалік, куртка, боты.

Выключыў дыктафон, паклаў у заплечнік, дзе ўжо ляжала невялікая рыдлёўка, ануча і пакет. Нікім не заўважаны, Стусік выйшаў з дома.

* * *

Прайшло паўгадзіны. Кась стаміўся ад скокаў па гурбах і прыхіліўся да дрэва. Толькі цяпер, нарэшце спыніўшыся, ён адчуў, як наступае, з жаданнем «жыўцом браць», на яго сэрца страх. Лес стаяў нерухома, неяк надта карцінна і надта ціха. Ані гуку. І раптам зусім блізка прагучалі крокі. Нібыта хтосьці раней пачуў Каська, спыніўся, услухаўся, а цяпер рушыў. Сюды.

Сэрца было гатовае выскачыць з грудзей. Кастусь у думках развітаўся з мамай, з татам, з домам, з братамі і сёстрамі і нават з улюбёным тэлескопам, як з-за елкі вызірнула вока. Проста вока, само па сабе. Боўталася ў паветры і бессаромна аглядала Стуся. А потым вакол гэтага вока паступова матэрыялізавалася ўсё астатняе. Перад Кастусём намалявалася дзіўнае стварэнне, чымсьці падобнае да чалавека, але ўсё ж не чалавек. «Аўстралапітэк без валасоў», — падумаў начытаны Дзядзь.

Стварэнне, не міргаючы, пераступіла з нагі на нагу і выдала нейкія незразумелыя гукі.

— Ты хто? — запытаў, крыху асмялеўшы, Кась.

«Аўстралапітэк» быў невялічкага росту і, здавалася, быў аднагодкам хлопцу. Ён патузаў нейкі апарат, што абвіваў яго шыю, выдаў яшчэ некалькі незразумелых стогнаў і раптам выразна сказаў:

— Мяне завуць Локі. Раса Туулі, планета Кескус, галактыка Глух. А ты?

Кась стаяў аслупянеўшы. Іншапланецянін? Тут? У іх маленькай вёсачцы?

— Я Кастусь. Раса Чалавек, планета...

— Я ведаю, што ты чалавек, — перарваў яго Локі. — Гэта адзіная раса на планеце Зямля. Вы яшчэ слабаразвітыя, таму большасць рас баіцца прылятаць сюды, вас лічаць дзікунамі. Ты не будзеш мяне есці?

— Ты што! Гэта я думаў ад цябе ратавацца! — здзівіўся Дзядзь-Кастусь.

— Не, — усміхнуўся туулі, — мы ямо толькі раслінную ежу. Мы веганы.

— А што вы тут робіце? — зусім падхрабрыўся Стусь.

— Мы ляцелі на Каляды да родзічаў у суседнюю з вамі галактыку, але глайдар заіскрыў, і мы згубілі кантроль. Упалі. Вось, тата цяпер рамантуе.

— На Каляды?! — Кась зусім разгубіўся. — У вас таксама ёсць Каляды? І ялінка? І Святы Мікола прыносіць падарункі?

Локі ківаў на кожнае пытанне і на апошнім тузануў апарат:

— Ах, Мікола... У нас ёсць хеліптэроід* Сар'ян Бурунжук. У кожнай планеты ёсць свой. А вы яшчэ, кажу ж, не развіліся... Ваш Мікола — няўдалая копія. Бо хеліптэроід — гэта звер. У яго два твары, няма рота і тулава, ё рог, вялікае крыло, малое крыло, шчупальца, якое пераходзіць у львіную лапу з кіпцюрамі. З гэтага шчупальца растуць капыткі. На твары два насы і чатыры розныя вокі, у лбе зорка. А яшчэ барада. Ён вельмі вялікі і сумны, бо ў свята забірае сум з усяго сусвету і дорыць нам тое, пра што мы марылі больш за ўсё... Ваш Мікола зусім да яго не падобны.

Узнікла паўза. Кась спрабаваў уявіць сабе хеліптэроіда.

— А вас, малых, таксама адпраўляюць спаць, каб дарослыя маглі спакойна і бессаромна піць гарэлку? — зморшчыўся Дзядзька.

Туулі зноў дакрануўся да апарата.

— Гарэлка?.. — перапытаў ён. — Я не ведаю, што гэта... У нас такога няма.

— А я не ведаю, што гэта, — паказаў Стусь на апарацік Локі.

— Гэта разумны перакладчык, сам распазнае мову і тлумачыць незнаёмыя словы і уласныя імёны. Плюс ён трансфармуе маю гаворку ў тую, якую чуеш ты. А аналага «гарэлкі» ў нас няма...

— А гарэлка — гэта алкагольны напой, — патлумачыў хлопчык. — Ён робіць людзей ці то вясёлымі, ці то дурнымі. Але мне гэта не падабаецца.

— У нас не п'юць нічога, што б рабіла нас вясёлымі і легкадумнымі, — адказаў Локі. — Нам гэта не трэба, бо ў нас ёсць сапраўдны хеліптэроід.

Абодва змоўклі.

— Можа, ты хочаш убачыць яго? — запытаў туулі. — Паедзеш з намі? А як будзем вяртацца, закінем цябе дамоў.

— Канечне, — узрадаваўся Дзядзька. — Я не спадзяваўся, што ты запросіш!..

— Толькі трэба папярэдзіць тваіх бацькоў, каб не хваляваліся.

— Не трэба, — сумна вымавіў Кась. — Пакуль у іх ё гарэлка — яны і не заўважаць. Вы мяне толькі да раніцы вярніце.

— Не пытанне! — усміхнуўся Локі.

* * *

Зранку Кастусь валокся дадому, ледзь варушачы стомленымі пасля танцаў нагамі. Заплечнік, набіты падарункамі, цягнуў да зямлі, у галаве гудзела ад песень і ўбачаных шматлікіх твараў-пыс.

Але было хораша. Бо гэтае свята было сапраўдным.

У сваёй спальні Стусь хуценька распрануўся, распіхаў падарункі па таемных кутах і толькі паспеў легчы і пачаць дыхаць роўна, як да яго зайшла мама.

— Касік, з Раством цябе!

— І цябе, матулечка.

— Сынок, ведаеш, мне так сорамна стала, што ўчора запіхнулі цябе спаць... У наступным годзе ты абавязкова будзеш святкаваць з намі!

Кастусь сціснуў у руцэ каменьчык, які Локі падарыў яму як запрашэнне на наступны год.

— Не, я лепш буду спаць. Свет маіх сноў мне больш падабаецца, — і ўсміхнуўся.



**Юлія Мароз**

нар. у 1994 у Карэлічах. Студэнтка Лінгвістычнага ўніверсітэта. Піша з 9-гадовага веку.

* Хеліптэроід пазычаны Касі Глухоўскай.

# «Навошта нам тая незалежнасць?»

Частка малдаўскага грамадства прагне аб'ядання з Румыніяй.

Шатландцы, каталонцы, фландрыйцы — усе гэтыя нацыі прагнуць незалежнасці і спадзяюцца на прызнанне іх суверэнітэту суседзямі. Рух за ўтварэнне новых краін разгортваецца па Еўропе і ставіць пад пагрозу існаванне цяперашніх межаў.

Адваротны працэс назіраецца толькі ў адной кропцы кантынента. У Малдове ўсё часцей гучаць галасы ахвотных далучыцца да Румыніі.

### Як называецца мова?

Месяц таму канстытуцыйны суд Малдовы прыняў рашэнне: дзяржаўная мова краіны цяпер называецца румынская. Аднак гэта не рэвалюцыйная змена, а вырашэнне юрыдычнага казусу. У дэкларацыі аб незалежнасці Малдовы, прынятай у 1991-м, дзяржаўную мову назвалі «румынскай», а ў Канстытуцыі 1994-га — «малдаўскай».

Дык як правільна? Малдаване не называюць ні адзін, ні другі варыянт, а карыстаюцца словамі "дзяржаўная мова", які супрацьстаўляецца рускай ці англійскай. Але, напрыклад, прадмет у школах і ўніверсітэтах называецца «румынская мова».

### Супольная гісторыя

Каб зразумець асаблівасці ўзаемаадносінаў краін, варта зрабіць невялікі экскурс у гісторыю.

Малдаўскае княства, якое аб'ядноўвала часткі цяперашніх Малдовы і Румыніі, існавала з сярэдзіны XIV да сярэдзіны XIX стагоддзяў, калі аб'ядналася з Валахіяй у адзіную Румынію.

Малдаўская ССР на цяперашняй тэрыторыі ўтварылася ў выніку падпісання Пакта Молатава-Рыбентропа, таму Румынія дагэтуль адмаўляецца ад дэмаркацыі мяжы з Малдовай.

На савецкі час прыпадае і фарміраванне літаратурнай малдаўскай мовы. Яе галоўнае адрозненне ад румынскай было ў кірылічным алфавіце (адменены у 1989). Цяперашняя розніца між мовамі заключаецца хіба што ў некалькіх сотнях дыялектных словаў.

Зрэшты, Акадэмія навук Малдовы на ўсялякі выпадак выдала «Малдаўска-румынскі слоўнік», куды ўключыла словы, якімі карысталася насельніцтва ў XIV-XV стагоддзі. Затое астатняя лексіка ад румынскай не адрозніваецца.

### Што рабіць з Прыднястроўем?

Рух за аб'яднанне краінаў быў актыўны на пачатку 1990-х, у ім асабліва шчыравала нацыянальная малдаўская інтэлігенцыя. Але з цягам часу сфарміраваліся палітычныя эліты, якія не маюць жадання дзяліцца сваім уплывам з румынамі. Аднак камуністы небяспеку аб'яднання бачаць дагэтуль.

«Еўрасаюз заахвочвае Малдову і Румынію да стварэння ўнітарнай дзяржавы ці хаця б федэрацыі. Мы ведаем, што гэтая дыпламатычная гульня ідзе ўжо даўно. Але прыхільнікі знішчэння незалежнасці Малдовы не ўлічваюць, што ў такім выпадку мы канчаткова згубім Прыднястроўе! А гэта 500 тысяч «нашых» людзей — тыя самыя малдаване, з якімі нас штучна падзялілі ў пачатку 1990-х», — кажа прадстаўнік кампартыі Аляксандр Новікаў.




Падчас масавых беспарадкаў у 2009 над рэзідэнцыяй кіраўніка дзяржавы адразу ж усталявалі румынскі сцяг

Аднак малдаване з праеўрапейскім светапоглядам не бачаць сэнсу да апошняга трымацца за Прыднястроўе.

«Навошта яно нам? Ад Прыднястроўя адныя праблемы: і крымінальнікі, і транзіт наркотыкаў. Мяжа Прыднястроўя з Украінай — прахадны двор. А церпіць ад гэтага Малдова, — абураецца менеджар прыватнай энергетычнай кампаніі Іон Рудэй. — Апошнія чатыры гады яны не плацяць Расіі за газ. Зусім! Іх доўг ужо дасягнуў $4 мільярдаў. Прыднястроўе кажа, што сетка газаправодаў у нас супольная, таму і доўг супольны. Але хто будзе плаціць?»

Прыднястроўе як незалежную дзяржаву прызналі толькі такія ж гаротныя Абхазія, Паўднёвая Асеція і Нагорны Карабах. Нават Расія дыпламатычна прамаўчала на просьбы прыднястроўцаў. Выехаць куды б ні было з пашпартам грамадзяніна Прыднястроўя немагчыма, і тамтэйшыя жыхары «ў запас» трымаюць малдаўскае і расійскае ці ўкраінскае грамадзянства.

### Чарга на клятву Румыніі

Прыднястроўцы «выкарыстоўваюць» малдаўскія пашпарты, а многія малдаване імкнуцца атрымаць румынскія дакументы. Калі Румынія ўступала ў Еўрасаюз, больш за 100 тысяч малдаванаў аформіла сабе дадатковае грамадзянства, каб бесперашкодна трапіць на еўрапейскі рынак працы. Усяго ж за часы незалежнасці прашэнні аб атрыманні пашпарта падавалі больш за 450 тысяч малдаванаў.

Працэдура атрымання румынскага грамадзянства максімальна спрошчаная. Аднесці ў консульства патрэбныя дакументы (пашпарт, дакументы аб прапісцы, даведку аб адсутнасці судзімасцяў) прынесці клятву на вернасць Румыніі — і новы грамадзянін гатовы.

Чарга з ахвотных стаіць каля румынскага консульства ў Кішынёве і іншых малдаўскіх гарадах пастаянна. «Калі вы прыносіце клятву на вернасці Румыніі, вы не адчуваеце, што адракаецеся Малдовы?» — асцярожна пытаюся ў 30-гадовага мужчыны з чаргі. «А што такое Малдова? 200 даляраў у месяц, пакуль ад голаду не падохнеш? — нервова перапытвае ён. — Чым такая дзяржава, хай ніякай не будзе. Навошта нам тая незалежнасць?»

**Ягор Марціновіч, Кішынёў-Мінск**

# Сельская гаспадарка Грузіі: рэфармавалі, рэфармавалі...

Аграрны сектар у глыбокай дэпрэсіі.

Сярод прэтэнзій у адрас рэформ, якія праводзіліся ў Грузіі за часамі Міхаіла Саакашвілі, найчасцей гучыць павелічэнне беспрацоўя у краіне. У краіне 16% насельніцтва не маюць сталай працы, але калі дадаць так званых «самаўладкаваных», то атрымліваецца больш за 50% працаздольнага насельніцтва.

У Грузіі даўно існуе такі тэрмін, як «самаўладкаваныя» — гэта тыя людзі, якія афіцыйна не працавалі цягам доўгага тэрміну, і забяспечваюць сям'ю, напрыклад, пры дапамозе ўласнай гаспадаркі. Самаўладкаванасць стала асноўнай формай працоўнай дзейнасці ў Грузіі з сярэдзіны 1990-х. Каб выжыць, людзям даводзілася займацца натуральнай гаспадаркай, і да 2003-га, часу «рэвалюцыі ружаў», самаўладкаванымі былі 58,3% эканамічна актыўнага насельніцтва.

Яшчэ ў 1992-м кіраўніцтва Грузіі правяло зямельную рэформу: прысядзібныя землі аддаваліся ва ўласнае карыстанне бязвыплатна. Гэтая першая хваля рэформ была вельмі важнай для гаспадаркі краіны, бо фактычна выратавала грузінаў ад голаду.

Другая частка дзяржаўных земляў аддавалася ў арэнду. Але, як часцяком здараецца, надобрасумленныя арандатары не надта імкнуліся захаваць якасць глебы, а хацелі атрымаць усё адразу і нічога не ўкладаць. Шмат хто з гэтых людзей былі знаёмыя з міністрамі, і таму маглі рабіць што заўгодна на арандаваных землях.

Але такая палітыка захоўвалася толькі да 2005-га: пасля рэвалюцыі ўрад прыняў закон «Аб прыватызацыі зямлі, якая знаходзіцца ў дзяржаўнай уласнасці». Раней гэтыя землі не былі прадстаўленыя на зямельным рынку, не выкарыстоўваліся ў якасці закладу для атрымання крэдытаў, не былі сродкам прыцягнення інвестыцый. Гэта запавольвала працэс развіцця сельскай гаспадаркі Грузіі і замінала стварэць новыя працоўныя месцы.

Аграрная рэформа пачалася з аўкцыёнаў, на якіх прадаваліся дзяржаўныя землі. На іх маглі прэтэндаваць толькі жыхары навакольных вёсак. Зямельныя ўчасткі можна было купляць у растэрміноўку — максімальны тэрмін выплаты поўнай сумы складае 9 гадоў. Але калі пакупнік пагасіць доўг раней, ён атрымае льготную цану.

Гэтая рэформа не вырашыла ўсе праблемы сельскай гаспадаркі Грузіі, але палепшыла сітуацыю.

Самы вядомы прыклад — гэта сітуацыя з вырошчваннем ды вытворчасцю чаю. Грузія штогод закупляе 800-900 тон чаю для ўнутранага спажывання, хоць у мінулым стагоддзі часамі краіна забяспечвала патрэбы велізарнай савецкай імперыі. Па ўсёй тэрыторыі былога СССР былі раскіданыя чайныя фабрыкі, якія займаліся расфасоўкай грузінскай гарбаты.

Эксперты лічаць, што рашэнне праблемы ляжыць на паверхні: трэба ў першую чаргу заняцца традыцыйнымі для рэгіёна відамі гаспадаркі, развіваць і падтрымліваць іх. «Накарміць» краіну могуць толькі такія традыцыйныя галіны, як жывёлагадоўля, птушкагадоўля, пладаводства, вырошчванне вінаграду ды гарбаты. Але аказалася так, што менавіта гэтыя галіны, за выключэннем, мабыць, птушкагадоўлі, знаходзяцца ў заняпадзе.

На думку сябра партыі «Нацыянальны Рух» Зураба Джапарыдзэ, дзяржаўная палітыка павінна заахвочваць людзей, спрыяць развіццю новых тэхналогій, павелічэнню прадуктыўнасці і ўраджайнасці хатніх гаспадарак. «Яна павінна стымуляваць аб'яднанне дробных гаспадарак, стварэнне і развіццё вытворчых і збытавых кааператываў. Гэтыя аб'яднанні могуць палегчыць сумесныя закупкі сельскагаспадарчай тэхнікі, насення і іншых матэрыялаў і продаж гатовай прадукцыі».

Да таго ж, Грузія будзе мець падтрымку з боку Еўрасаюза: бюджэт атрымае 4 мільёны еўра ў рамках праграмы Еўрапейскай палітыкі суседства для сельскай гаспадаркі і развіцця вёскі. Мяркуецца, што гэта паспрыяе ліквідацыі беднасці ў рэгіёнах.

Пасля рэвалюцыі ружаў у Грузіі сапраўды адбыўся першы радыкальных рэформаў, і цяпер, праз 10 год, можна падводзіць вынікі. Штосьці ў грузінскага народа атрымалася выдатна, штосьці — не вельмі, але людзі насамрэч сталі думаць па-іншаму. Як слушна заўважыў у адным са сваіх інтэрв'ю Міхаіл Саакашвілі, рэвалюцыя толькі пачынаецца на вуліцах са сцягамі, а працягваецца ў галовах людзей. Радыкальныя рэформы (змены ў візавым, транспартным кантролі, знішчэнне ДАІ) прывялі да таго, што людзі пачалі адчуваць сябе інакш — магчыма, яны сталі больш сумленнымі. І не толькі таму, што перасталі даваць хабар.

**Настасся Храловіч, Тбілісі-Мінск**



Гэты дзіўны калядны парад пінгвінаў адбыўся ў адным з заапаркаў паўднёва-карэйскага Сеула.





Пісьменнік Уладзімір Арлоў і мастак Зміцер Герасімовіч пры падтрымцы банка «БелВЭБ» стварылі каляндар на 2014 год «Брама навук і мастацтваў нязнаных. Культурны ўплыў Беларусі на Расію ў XVI-XVIII стагоддзях». На жаль, набыць каляндар не атрымаецца. Распаўсюджвацца ён будзе сярод кліентаў банка.



Вавёрка выбегла на поле падчас гульні Чэмпіянату Англіі паміж «Лестэрам» і «Куінз Парк Рэйнджэрсам».





## Анекдоты і жарты

* * *

«Бясплатны газ бывае толькі ў газавай камеры», — са старой прымаўкі пачаў перамовы з Лукашэнкам Пуцін.

* * *

Толькі тады, калі хочаш падабраць шкарпэтку да пары, разумееш, колькі адценняў у чорнага.

* * *

— А вы былі ў Нацыянальнай бібліятэцы?
— Не, а што? Там таксама «Еўраопт» адкрылі?

* * *

Бабуля Майка Тайсана клала ўнука спаць з двух удараў.

* * *

Хлопчык канчаткова ператвараецца ў сапраўднага мужчыну, калі пачынае разумець, што лепшая мяккая цацка — гэта канапа.

* * *

— Каханы, мы тут з сяброўкамі вырашылі выпіць крыху шампанскага.
—!!!
— І не крычы так. Проста забяры мяне цяпер з Вільні.

* * *

Жылі ў бацькі тры сыны.
А свае кватэры здавалі.

## Шаноўныя чытачы, наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе ў сераду 8 студзеня. Шчаслівых вам Калядаў і вясёлага Новага года!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Каб не было задзержкі** з высылкай газеты, просім прысылаць падпіску на 1914 год.
**«НН». №51-52. 1913.**

**Мы страцілі героя** — памёр Васіль Быкаў. І набылі герояў — у асобе выкладчыкаў і вучняў закрытага Беларускага Ліцэя... Ліцэй, зачынены без усялякіх важкіх прычынаў, працуе. Пад бясконцым прэсінгам ён працягвае даваць дзецям навуку. Гэта тая падзея, якая праз дзесяцігоддзі застанецца ў беларускай гісторыі, — змаганне за свабоднае навучанне на беларускай мове. Засталіся ў гісторыі філаматы і філарэты — застануцца і ліцэісты.
**«НН». №48. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 24.12.2013.
Замова №5289.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

